*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*



# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 15 студзеня 1988 г. № 3 (3413) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

# ДЭМАКРАТЫЗАЦЫЯ — СУТНАСЦЬ ПЕРАБУДОВЫ, СУТНАСЦЬ САЦЫЯЛІЗМУ

## Сустрэча ў Цэнтральным Камітэце КПСС

Як паведамлялася ўжо, 8 студзеня ў Цэнтральным Камітэце КПСС адбылася сустрэча з кіраўнікамі сродкаў масавай інфармацыі, ідэалагічных устаноў і творчых саюзаў.

На сустрэчы выступіў Генеральны сакратар ЦК КПСС **М. С. Гарбачоў.** Ён сказаў:

Таварышы!

Мы сустракаемся з вамі ў самым пачатку новага года. Але размова будзе не толькі аб новым, але і аб старым годзе. І не таму, што на рубяжы двух гадоў іменна так, пад такім пунктам погляду прынята разглядаць праблемы. Але таму, што і год мінулы, і год цяперашні, які ўвайшоў ужо, уласна, у свае правы, моцна звязаны.

Мы хочам павесці сёння размову ў духу тых сустрэч, якія ў нас ужо былі: па-таварыску і адкрыта. Цяпер час вырашальны для краіны, і нам зноў трэба зверыць гадзіннікі. Таму такія гутаркі мы вядзём перш за ўсё ўнутры самой партыі, з партыйным апаратам, з усімі слаямі нашага народа. І, вядома, мы хочам прадоўжыць тую добрую традыцыю, якая ў нас з вамі склалася, — сустрэчы з кіраўнікамі сродкаў масавай інфармацыі і творчых саюзаў.

Нам абавязкова патрэбны абмен меркаваннямі, думкамі, таварыская дыскусія. Таму мы надаём вялікае значэнне сустрэчам з вамі, дарагія таварышы.

Я сказаў, што мы сустракаемся на рубяжы 1987—1988 гадоў. Ужо адно гэта пабуджае да таго, каб і ацаніць мінулае, здзейсненае, і паспрабаваць зазірнуць у будучыню.

І яшчэ адна акалічнасць робіць гэту размову асабліва значнай. Мы ў асноўным закончылі першы этап перабудовы і пачынаецца другі. Таму мы на рубяжы. Вядома, такое дзяленне на этапы ўмоўнае: у жыцці ўсё ўзаемазвязана, і многае з таго, што пачалося, працягваецца і будзе працягвацца.

Мы раздзяляем гэтыя два этапы, каб ясней вычленіць задачы, якія стаяць перад намі. На першым этапе нам прыйшлося грунтоўна папрацаваць над тым, каб тэарэтычна асэнсаваць сітуацыю, якая склалася да сярэдзіны 80-х гадоў.

Трэба было разабрацца з рэальным станам грамадства, у якім мы жывём, вызначыць планы на будучыню. Прычым не на аснове павярхоўных і аблегчаных уяўленняў, а з усведамленнем адказнасці і перад краінай, і перад сацыялізмам, і перад светам, улічваючы вагу і ролю нашай краіны.

Мы распрацавалі канцэпцыю перабудовы, прынялі найбольш важныя, буйныя рашэнні. Без гэтых рашэнняў мы не маглі б з вамі дзейнічаць перспектыўна, адначасова займаючыся і бягучымі пытаннямі.

На гэтым этапе перабудовы былі задзейнічаны многія сілы нашага грамадства. Перш за ўсё патэнцыял самой партыі, вучоныя, мастацкая інтэлігенцыя, сродкі масавай інфармацыі. Краіна жыла, дзейнічаў народ. Ён працаваў, вырашаў задачы, не чакаючы пакуль будуць завершаны тэарэтычныя і палітычныя пошукі.

Першы этап іменна тым і адрозніваецца ад наступнага — мы праяснілі, што трэба рабіць і як рабіць. Гэта цяжкая задача, яна застаецца і сёння актуальнай. Але цяпер надышоў самы складаны этап, калі канцэпцыя перабудовы павінна ўваходзіць у самую шырокую сувязь з жыццём, з практычнай дзейнасцю мільёнаў савецкіх людзей. Тое, што ўсвядомілі ў палітычным кіраўніцтве, у перадавой частцы нашага народа, павінна быць цяпер усвядомлена ўсім нашым народам, усімі яго слаямі. Без гэтага, без яснага разумення палітыкі партыі не будзе перакананасці ў яе неабходнасці. А іменна такая перакананасць вызначае дух людзей і іх рэальныя ўчынкі.

Гэта задача па-сапраўднаму грандыёзная. Тут у цэнтры застаецца чалавек. І з пункту погляду таго, што ўсё робіцца для чалавека, і з пункту погляду таго, што самі людзі павінны стварыць усё тое, што мы калектыўна задумалі.

Цяпер многае абвастрылася, нарастаюць дыскусіі. Працэс перабудовы ідзе не без барацьбы. Гэта натуральна. Калі перабудова сапраўды — працяг рэвалюцыі, калі мы цяпер праводзім сапраўды рэвалюцыйную палітыку, значыць непазбежная барацьба.

Так было ў гады ўсіх рэвалюцый, так будзе і цяпер. І мы гэта адчуваем. Іншая справа — формы гэтай барацьбы і яе ўдзельнікі. У нашай краіне — гэта не антаганістычна процістаячыя, варагуючыя бакі з процілеглымі класавымі інтарэсамі. Хутчэй можна гаварыць аб групавых, часовых інтарэсах, нават іншы раз амбіцыях, калі амбіцыі наогул можна аднесці да інтарэсаў.

Мы ўсе ўдзельнікі велізарнай стваральнай работы па перабудове краіны. Таму характар барацьбы будзе насіць у нас форму дыскусій, ідэалагічных спрэчак, якія маюць на мэце разабрацца ў сітуацыі, усвядоміць задачы, што стаяць перад намі. Вось вакол гэтага і трэба весці размову, таварышы.

Мы выходзім з аднаго этапа, уступаем у другі. Якасна мяняюцца задачы і асабліва — маштабы работы. Цэнтр цяжару пераносіцца ўжо ў плоскасць практычнай рэалізацыі, у плоскасць увасаблення палітыкі ў жыццё. Гэта ўжо якасна новая сітуацыя. Мы ўсе яе адчулі. Усе, хто ўдзельнічае ў гэтай сустрэчы, звязаны самым непасрэдным чынам з жыццём нашага грамадства, кожны дзень атрымліваюць шырокую інфармацыю, разумеюць, бачаць і адчуваюць працэсы, якія адбываюцца ў нас, і іх перспектыву.

І ў гэтым сэнсе яшчэ раз хачу падкрэсліць — многае даў нам год 1987-ы. Ацэньваючы яго па самых строгіх мерках, мы павінны прызнаць, што гэта быў год вялікай працы. На самай справе, калі б не было ўсёй той тэарэтычнай, палітычнай і практычнай работы, якую мы правялі ў мінулым годзе ў сувязі са святкаваннем 70-годдзя Вялікага Кастрычніка, мы з вамі былі б на дзве-тры ступені ніжэй у разуменні і нашага мінулага, і цяперашняга этапа, і нашых перспектыў. Мы паглыбілі аналіз грамадства. Мы лепш ведаем цяпер сваю гісторыю. І гэта мае выключна важнае значэнне.

Нельга згадзіцца з тымі, хто прапануе забыць гісторыю або выкарыстоўваць толькі нейкую яе частку. Цяпер усе мы добра разумеем, што такі пункт погляду непрымальны. Мы павінны глыбока ведаць гісторыю сваёй Айчыны, асабліва паслякастрычніцкую. Веданне гэтай гісторыі, веданне прычын тых або іншых з'яў, прычын, якія ляжаць у аснове велізарных дасягненняў нашай дзяржавы, веданне прычын і буйных пралікаў, трагічных падзей нашай гісторыі — гэта ўсё дае нам магчымасць атрымаць урокі для дня сённяшняга, калі хочам абнавіць грамадства, паўней раскрыць патэнцыял сацыялізму, яго каштоўнасці. Мы цяпер сапраўды лепш ведаем сваю гісторыю, карані многіх з'яў, якія нас усіх непакоілі ў апошні час і якія былі непасрэднай прычынай рашэнняў аб неабходнасці перабудовы грамадства.

Разам з тым, дасягнутае намі ў ходзе падрыхтоўкі да 70-годдзя Кастрычніка разуменне сваёй гісторыі не ёсць нешта застыўшае, раз назаўсёды дадзенае. Яно будзе паглыбляцца і развівацца ў ходзе далейшых даследаванняў.

Паглыбленне ведаў, разумення гісторыі, атрыманне ўрокаў з мінулага і, вядома, распрацоўка перспектыў руху — вось што вызначае нашу работу сёння. Тое, што зроблена ў гэтым плане, узбагаціла ўсю палітычную, ідэалагічную, духоўную сферы жыцця грамадства. Гэта першае.

Другое. Як я ўжо гаварыў, 1987 год з'явіўся годам прыняцця буйных рашэнняў. Я б сказаў так: калі б цяпер мы не мелі рашэнняў студзеньскага, чэрвеньскага Пленумаў ЦК КПСС, не мелі Закона аб дзяржаўным прадпрыемстве, мы б з вамі былі іншымі. І наша разуменне сітуацыі, і наша ўяўленне аб тым, што цяпер рабіць і якімі шляхамі рухацца далей, былі б іншымі.

Істотны зрух у распрацоўцы тэорыі і палітыкі перабудовы надае нашай рабоце ўсвядомлены, мэтанакіраваны характар. Мы цяпер можам дзейнічаць паслядоўна, зыходзячы з прынятых рашэнняў, на аснове навуковага аналізу і шырокага абмеркавання гэтых праблем у партыі, у грамадстве ў цэлым. Гэта і дазваляе ажыццявіць пераход да наступнага этапа перабудовы.

Мінулы год пераканаўча паказаў таксама, што працэсы, якія адбываюцца ў Савецкім Саюзе, маюць велізарнае значэнне не толькі для нашай краіны, для нашага народа, але і для лёсу сацыялізму, для сітуацыі ў свеце ў цэлым. У мінулым годзе мы гэта адчулі асабліва выразна.

Гэта вызначае і меру нашай адказнасці. Тое, што мы робім унутры краіны, у спалучэнні з ініцыятывамі ў сферы знешняй палітыкі, дазволіла нам упершыню адчуць, што можна рэальна ставіць задачы па змяненню абстаноўкі ў свеце ў лепшы бок.

Успомнім: не так даўно — 15 студзеня 1986 г. мы абвясцілі канцэпцыю бяз'ядзернага, бяспечнага свету. Першая рэакцыя на Захадзе (асабліва сярод палітыкаў, палітолагаў) была такая — гэта утопія. Хоць мы з самага пачатку думалі і рыхтавалі дакумент такім чынам, каб ён не ўспрымаўся як чарговы прыметны лозунг, можа быць, з большым адценнем пацыфізму, але далёкі ад рэалістычнай палітыкі. Не, там дакладна абазначаны і мэты, і канкрэтныя падыходы да вырашэння задач, і баланс інтарэсаў. Мы былі ўпэўнены, што гэты дакумент будзе працаваць. І тым не менш на першым этапе многія лічылі, што ў ім абазначана толькі далёкая мэта, якая не мае актуальнага значэння.

Сёння мы бачым, як ідэі, якія мы прапанавалі і называем новым палітычным мысленнем, прабіваюць сабе дарогу — з цяжкасцю, з боем, пераадольваючы існуючыя стэрэатыпы, старыя падыходы, але прабіваюць. Вы ўсе маеце шырокія кантакты з рознымі прадстаўнікамі сусветнай грамадскасці і, думаю, пацвердзіце, што ў маёй канстатацыі няма перабольшання. Сітуацыя, настрой у свеце мяняюцца да лепшага. Гэты год паказаў пераканаўча, што ў свеце накапілася многа стомленасці, многа праблем, якія ўскладняюць чалавечае жыццё. Гонка ўзбраенняў, ваенная канфрантацыя адцягваюць велізарныя рэсурсы, чалавечы розум і чалавечыя сілы ад вырашэння жыццёва важных агульначалавечых задач.

Таму наша канцэпцыя, а ўслед за ёй — канкрэтныя ініцыятывы ляглі, увогуле, на падрыхтаваную глебу. І ўжо цяпер паявіліся першыя ўсходы. Канкрэтны вынік, думаю, мы можам характарызаваць такім чынам: пачаўся рэальны працэс паляпшэння, аздараўлення міжнароднай абстаноўкі. Пералому пакуль што не адбылося, але пачатак яму палажыла падпісанне Дагавора аб ліквідацыі ракет сярэдняй і меншай дальнасці. Так, у палітычным плане, калі падыходзіць да мінулага года ў шырокім аспекце, мы і ацэньваем яго як год буйнамаштабных, вялікіх падзей і перамен у сусветным развіцці.

Як самае галоўнае, з пункту погляду палітычнай ацэнкі ходу перабудовы, трэба падкрэсліць, што на яе асноўную арэну трывала выходзіць народ. Ён усё больш важка заяўляе аб сабе, выкарыстоўваючы працэсы дэмакратызацыі, публічнасці ў рабоце партыйных, дзяржаўных органаў, грамадскіх арганізацый. Паглядзіце, як грунтоўна ставіць цяпер рабочы клас пытанні жыцця грамадства, перабудовы, як рэальна ён пачынае прад'яўляць свае патрабаванні, якія вынікаюць з новай сітуацыі.

31 снежня мы ў Палітбюро правялі некалькі гадзін у абмеркаванні найбольш характэрных з'яў мінулага года. І адзін з нашых вывадаў заключаецца ў тым, што, можа, толькі нейкія асобныя таварышы або невялікія групы высту-

(Працяг на стар. 2).

# ДЭМАКРАТЫЗАЦЫЯ — СУТНАСЦЬ ПЕРАБУДОВЫ, СУТНАСЦЬ САЦЫЯЛІЗМУ

(Працяг. Пачатак на стар. 1).

палі ў мінулым годзе з антыперабудовачных пазіцый. У цэлым жа і рабочыя, і калгаснікі, і інтэлігенцыя ў самых вострых дыскусіях, у самых моцных сутыкненнях думак, абмеркаванні самых розных пытанняў жыцця ў галінах, працоўных калектывах дзейнічалі з пачуццём велізарнай адказнасці за справу перабудовы, за краіну, за сацыялізм.

Гэта, таварышы, вельмі важная з'ява. І добра, што мы перасталі баяцца, упадаць у разгубленасць пры найменшым руху думкі ў народа, яго спробах рэалізаваць патэнцыял сацыялістычнай дэмакратыі, які закладзен у нашым ладзе. Набірае вопыт партыя, набіраюць вопыт кадры. Нялёгка гэта ідзе, небезбалесна: яшчэ часта мы адзін аднаго застрашваем. Нас нярэдка крытыкуюць: адны — справа, другія — злева. Апошнія гавораць, што перабудова спынілася, заклікаюць да больш рашучых мер, да перастрэсвання кадраў і да таго падобнага. Гэта, у прыватнасці, праявілася і на кастрычніцкім Пленуме ЦК.

Што паказала дыскусія? Тое, што цяпер, калі мы прыступілі да сур'ёзнай работы, да ажыццяўлення палітыкі перабудовы, увасаблення яе ў жыццё, «ультраперабудовачная» фразеалогія аказалася бездапаможнай. У прадстаўнікоў «рэвалюцыйнай» фразы няма ні вытрымкі, ні гатоўнасці ўзяць на сябе адказнасць, цяжкар настойлівай і працяглай работы, каб вывесці наша грамадства на новыя рубяжы.

Не будзем скрываць, што партыйны адпор гэтай фразеалогіі нейкай часткай інтэлігенцыі, асабліва моладзі, быў успрыняты як удар па перабудове. Але гэта — найглыбейшая памылка, і народ гэта правільна зразумеў, не паддаўшыся дэмагагічнай фразеалогіі.

Цяпер аб крытыцы перабудовы справа. З гэтага боку чуваць галасы ледзь ці не аб «падрыве асноў» сацыялізму. Законна паставіць пытанне: чым яны падрываюцца? Тым, што народ разварочваецца, узнімае галаву, каб больш упэўнена брацца за справы ў краіне, дзе ён гаспадар? Наадварот, сацыялізм не толькі не аслабляецца, але набірае сілу і праз палітычную і сацыяльную актыўнасць народа паўней рэалізуе свой патэнцыял.

Наносіцца ўдар па камандна-адміністрацыйных метадах і іх канкрэтных носьбітах, іх інтарэсах. Па тых, хто ніяк не можа зразумець час, зразумець таго, што мы не можам ісці далей інакш, як праз дэмакратызацыю нашага жыцця. Але іменна так і было задумана, калі мы пайшлі на перабудову. Таму мы павінны цвёрда ісці па дарозе, якую выбралі. І ў гэтым сэнсе 1987 год — вялікая школа сацыялістычнай дэмакратыі.

Урокі, вядома, цяжка даюцца, але, я вам скажу, і засвойваюцца добра. Мы з вамі ўжо не тыя, якімі былі ў красавіку 1985 года, і нават не тыя, якімі былі напярэдадні 1987 года. Мы многае набылі. Скажуць: але сёе-тое і страцілі. Па-буйному мы яшчэ нічога не страцілі і, думаю, не страцім, калі будзем прытрымлівацца прынцыповай лініі.

Якія задачы застаюцца на сёння самымі цяжкімі, дзе падводныя камяні перабудовы? Я б сказаў так: было б нерэалістычна лічыць, што мы ўжо зламалі механізм тармажэння, што поўнасцю перайшлі на рэйкі шырокай сацыялістычнай дэмакратыі, на рэйкі новага гаспадарчага механізма. Мы толькі пачынаем перабудову, наша грамадства толькі яшчэ выходзіць са стану застою. Зламаць механізм тармажэння, які стрымлівае працэс перабудовы, — гэта задача і сёння застаецца галоўнай.

Вялікай заваёвай першага этапа перабудовы з'явілася стварэнне ў грамадстве новай ідэйна-маральнай атмасферы, для якой характэрны шырокая публічнасць, крытыка і самакрытыка, паглыбленне працэсу дэмакратызацыі і рост адказнасці працоўных за становішча спраў у краіне. Усё гэта патрабуе ўмацавання і развіцця. Галоўны палітычны вынік — нарастаючая падтрымка народам лініі партыі на перабудову. Ідзе працэс кансалідацыі грамадства вакол ідэй перабудовы. Прычым не проста на ўзроўні мітынгаў і лозунгаў, а на справе, па сутнасці.

Увогуле, мы выбралі на студзеньскім Пленуме ЦК правільную лінію — лінію на развіццё сацыялістычнай дэмакратыі. Праз дэмакратызацыю, праз уключэнне народа ва ўсе працэсы грамадства можна ажыццявіць перабудову, надаць ёй незваротны характар. Я б тут толькі дабавіў, што дэмакратызацыя, публічнасць — гэта не толькі сродкі перабудовы. Гэта — рэалізацыя сутнасці нашага сацыялістычнага ладу, ладу працоўных і для працоўных. Гэта — не часовая кампанія, а сутнасць сацыялізму. Тое, што адрознівае яго ад буржуазнай дэмакратыі, якая сваімі хітраспляценнямі стварае толькі знешні выгляд свабоды, адкрытасці, адхіляючы народ ад рэальнай палітычнай улады, пакідаючы для яго, як гаварыў Ленін, адну толькі магчымасць — у перыяд выбарчых кампаній вырашаць, хто яго будзе ашукваць у чарговы тэрмін.

Мы хочам праз сацыялістычную дэмакратыю ўключыць народ ва ўсе працэсы кіравання. І калі нас цягнуць да буржуазнага лібералізму і хочуць падкінуць яго «каштоўнасці», то гэта — процілеглы рух, рух назад.

Мы зрабілі выбар і будзем ісці па шляху, які пачалі ў 1917 годзе. Мы па-сапраўднаму бяромся за тое, каб раскрыць усё, закладзенае ў нашым ладзе, у сацыялістычнай дэмакратыі. Гэта ж ленінская думка: пралетарыят рыхтуецца да сацыялізму праз дэмакратыю і можа кіраваць грамадствам пасля рэвалюцыі толькі праз дэмакратыю, якая расшыраецца. Таму яшчэ раз успомнім добрым словам студзеньскі Пленум: ён нас вывеў на разуменне неабходнасці шырокай дэмакратызацыі нашага грамадства. Значыць, не дарэмна мы з вамі калектыўна папрацавалі пры яго падрыхтоўцы. Усё, што закладзена ў яго рашэннях, дакументах, — гэта і калектыўны вопыт партыі, і ўвасабленне думак і прапаноў навуковай і мастацкай інтэлігенцыі, усіх слаёў грамадства.

Яшчэ адзін важны ўрок з мінулага года, які трэба засвоіць, заключаецца ў наступным. Мы кіруемся ленінскай канцэпцыяй палітычнай партыі. Па Леніну — гэта партыя новага тыпу, якая выконвае ролю палітычнага авангарда грамадства. Уся папярэдняя гісторыя краіны пры ўсіх здабытках і стратах паказала, што гэта іменна так. Сённяшняе жыццё яшчэ больш пераконвае нас, што без палітычнага авангарда, здольнага ідэалагічна і арганізацыйна згуртаваць лепшыя сілы краіны, асэнсаваць працэсы, якія адбываюцца ў грамадстве, рэалізаваць вынікі гэтага навуковага аналізу — без такога авангарда, гэта значыць без Камуністычнай партыі, ніякія пераўтварэнні немагчымы.

Але партыя не павінна адставаць ад працэсаў, якія адбываюцца ў грамадстве. І мы гэтаму ў многіх адносінах у мінулым годзе навучыліся. Там, дзе мы адставалі, паяўлялася многа такога, што выклікала потым трывогу ў грамадстве. Мы з гэтага атрымліваем урокі і робім вывады. Прычым не толькі на ўзроўні палітычнага кіраўніцтва і ўрада, але і ў рэспубліках, у абласцях, у працоўных калектывах. Гэта вельмі важна, хоць пакуль мы не можам сказаць, што так робяць усе партыйныя арганізацыі.

Што, таварышы, яшчэ можна сказаць аб уроках перабудовы? Відаць, раней мы да канца не ўяўлялі сабе, наколькі ў гады застою атрымалі распаўсюджанне ў грамадстве ўсякага роду негатыўныя з'явы: утрыманства, ураўнілаўка, вывадзілаўка, месніцтва, ведамаснасць, процізаконныя дзеянні. Барацьбу за аздараўленне, за рашучае спыненне злачыннай дзейнасці, за ачышчэнне грамадства ад маральных вырадкаў мы вядзём і будзем весці рашуча і паслядоўна. Але вось маштабнасць іншых негатыўных з'яў, якія захапілі наша грамадства, мы ў поўнай меры недаацэньвалі.

Вазьміце ўраўнілаўку, утрыманства. Справа дайшла да таго, што дзе б і чаго б ні хапала — будаўнічых матэрыялаў, вугалю або чагосьці іншага, неабходнага для штодзённага жыцця, — усе просьбы ідуць у цэнтр — у ЦК і Урад. У велізарнай краіне з амаль 300-мільённым насельніцтвам і вялікім апаратам кіравання на месцах па многіх, нават самых простых пытаннях прыходзіцца прымаць рашэнні тут, у Маскве. Вось якія плады застою, неапраўданай цэнтралізацыі мы цяпер пажынаем!

Ёсць і другі бок. У нас у поўнай ступені дэфармавалася разуменне сацыяльнай справядлівасці. Гэта праявілася і ў выступленнях друку. Калі рэалізаваць уяўленні, якія атрымалі падтрымку ў асобных органах нашага друку, то трэба ўзяць вялікі прас і выпрасаваць усё грамадства. Пад адзін грэбень падстрыгчы ўсіх: талент і бездара, добрасумленнага рабочага і гультая, сумленнага чалавека і зладзюгу. На жаль, цяпер вельмі распаўсюджаны такі настрой: рабіць у дзесяць, у сто разоў менш, а то і наогул нічога не рабіць і ў той жа час карыстацца ўсімі дабротамі нароўні з людзьмі, якія ўносяць у развіццё краіны вялікі працоўны ўклад.

Нашы сатырыкі вельмі трапна і вобразна схапілі гэту сітуацыю: «Я хачу жыць у добрай кватэры, я хачу, каб не было чэргаў, я хачу, каб не ціснулі, гузікі не адрывалі ў аўтобусе, я хачу мець даброты па ўсяму асартыменту маіх жаданняў; адзінае, чаго я не хачу — гэта што-небудзь зрабіць для гэтага».

Калі мы крытыкуем нашы кадры, нашы кіруючыя органы — гэта правільна, гэта трэба працягваць і не зніжаць узроўню крытыкі. Але многа праблем накапілася і ў працоўных калектывах. Нам трэба зрабіць так, каб усё грамадства глыбей усведамляла нашы сацыялістычныя каштоўнасці. Калі захаваюцца вывадзілаўка, ураўнілаўка, спажывецтва, утрыманства, мы не зрушым працэс перабудовы ні ў сферы вытворчасці, ні ў іншых сферах.

Нам трэба жыць і дзейнічаць, зыходзячы з прынцыпу сацыялізму: «ад кожнага — па здольнасцях, кожнаму — па працы». У нас высокая сацыяльная абароненасць чалавека. Гэта і адрознівае сацыялізм.

Мы маем бясплатную адукацыю, медыцынскае абслугоўванне, права на працу, гарантыю атрымаць работу, даступнае жыллё, хоць яно і застаецца яшчэ вострай праблемай. Сацыялізм абараняе кожнага, а які ад кожнага грамадства атрымлівае ўклад? Вось тут трэба ўсім моцна задумацца. Нядаўна ў прэсе паведамлялася, што ў асобных калгасах даяркі, надойваючы ўсяго толькі па дзве тысячы кілаграмаў малака ад каровы ў год, атрымліваюць зарплату па 600 рублёў у месяц. І калі паспрабавалі ўвесці аплату па працы, яны расцанілі гэта як удар па іх інтарэсах. А атрымліваемая імі да гэтага часу зарплата проста не заробленая. Яна выплачвалася ім за кошт датацый дзяржавы, гэта значыць за кошт іншых членаў грамадства. Гэта адзін прыклад.

Але ёсць прыклады і іншага парадку. На сямейным падрадзе, на калектыўным, брыгадным падрадзе здольныя, добрасумленныя, працавітыя людзі, як, напрыклад, сібіракі ў калектывах інтэнсіўнай працы, у 8—10 разоў больш атрымліваюць прадукцыі ў разліку на чалавека, чым у большасці гаспадарак краіны. Натуральна, растуць і іх заробкі. І адразу да іх прыкоўваецца ўвага, прыязджаюць з рознымі камісіямі. Куды, маўляў, ім столькі грошай? Але чаму так ставіцца пытанне? Яны ж усё гэта зарабілі. Прычым, калі канчатковы вынік іх працы расце шматразова, то зарплата — усяго ў паўтара-два разы. Для грамадства — гэта перамога. Усюды б так! А ў нас некаторыя палохаюцца: гэта, маўляў, прывядзе да развіцця прыватнаўласніцкай псіхалогіі.

Але хіба апраўдана такая пастаноўка пытання? Чалавек працуе на грамадскай зямлі, па дагавору з праўленнем калгаса або дырэкцыяй саўгаса, выкарыстоўваючы выдзеленыя яму матэрыяльныя рэсурсы. І робіць усё з вялікай адказнасцю, з талентам. Як жа можна яго разглядаць як патэнцыяльнага прыватнага ўласніка? І аб якой жа сацыяльнай справядлівасці можа ісці гаворка ў гэтым і прыведзеным вышэй выпадку?

Нам трэба думаць і над тым, чаму ў нас чалавек, які сумленна зарабіў грошы, часам не можа сабе ні дом пабудаваць, які ён хоча, ні кааператыўную кватэру купіць або неяк па-іншаму рэалізаваць сваю зарплату. І ў гэтым выпадку парушаецца прынцып сацыялізму. Добры працаўнік і яго сям'я павінны адчуваць, што сумленна заробленыя грошы даюць магчымасць жыць лепш.

Перабудова закранае інтарэсы не толькі ў сферы матэрыяльнай. Яна ахоплівае і духоўную, культурную сферу. Актыўна ідзе ўсведамленне нашага шляху ў мінулым, цяперашнім і будучым. Гэты працэс таксама праходзіць небезбалесна. Ідуць дыскусіі аб нашай мінулай гісторыі, крытычна аналізуюцца тыя ці іншыя яе этапы.

І гэта паглыбляе разуменне дасягнутага пасля Кастрычніка нашым народам. Адначасова дае магчымасць з пазіцый праўды правільна ацаніць цяжкія перыяды нашай гісторыі. Мы павінны навучыцца жыць у абстаноўцы публічнасці, пастаяннага крытычнага аналізу таго, што зрабілі, што ўдалося, чаго дасягнулі і якія ў нас былі памылкі.

Публічнасць і крытыка — гэта спосаб кантролю мас, кантролю грамадства за ўсімі працэсамі. Гэта і спосаб абагульніць вопыт, улавіць галоўныя тэндэнцыі ў грамадстве, перасцерагчы ад памылак. Гэта нармальны стан, і ніхто не павінен упадаць у паніку, калі выказваюцца крытычныя заўвагі.

Давайце дастойна адносіцца да крытыкі, давайце паважаць адзін аднаго. І ўжо асабліва не трэба вешаць ярлыкі. Цяпер жа часам у артыкулах, у часопісах крытыку вызначаюць групавыя схільнасці. І гэта адчуваецца. А трэба ў цэнтр увагі ставіць клопаты аб нашых агульных справах, аб людзях.

Праўда, цяпер усе гавораць: клапоцімся аб краіне, аб народзе, яго мастацкім і культурным выхаванні. А пад сцягам гэтага спрабуюць працягнуць часам усякія прыватнасці, асабістыя амбіцыі. Трэба гэтага пазбягаць. І давайце нікому не будзем адмаўляць у праве выказаць сваю пазіцыю, нават калі ён раней на нейкім этапе прытрымліваўся ўстарэлых поглядаў. Але калі сёння ён іх свядома і сумленна пераадольвае, становіцца ў рад актыўных удзельнікаў перабудовы, хіба можна адштурхоўваць яго, пазбаўляць магчымасці ўносіць пасільны ўклад у агульную справу?

Трэба быць вышэй асабістых эмоцый і настрояў і ў аснову асноў ставіць інтарэсы перабудовы. Якія часам словы знаходзяць, каб «прыпячы» свайго апанента! Вялікая гэта справа — слова, але карыстацца ім трэба не на шкоду прынцыповасці. Той, хто не туды цягне, той, хто хоча павесці нас убок, збіць на другі шлях, хто хоча падкінуць у «касцёр перабудовы» зусім іншае паліва, няхай ведае — гэта не пройдзе. ЦК будзе цвёрда стаяць на ленінскіх пазіцыях, рабіць усё для раскрыцця патэнцыялу сацыялістычнай дэмакратыі, паглыбляць працэс перабудовы на аснове сацыялістычных каштоўнасцей.

Ніхто ў нас па-за кантролем не стаіць. Што ж мы, толькі збавіліся ў партыі ад асоб, «тэрыторый», якія гадамі знаходзіліся па-за кантролем, па-за крытыкай, а цяпер будзем зноў вяртацца да гэтага? Гэта адносіцца і да сродкаў масавай інфармацыі. Савецкі друк — не прыватная крамка. Успомнім яшчэ раз Леніна: літаратура — частка агульнапартыйнай справы. Гэта прынцыповае палажэнне, і мы ім кіруемся і сёння. Мы ад ленінскіх ідэй не адмовімся. Служэнне Айчыне, свайму народу — вось тое, што заўсёды вызначала нашу інтэлігенцыю і нашу літаратуру.

Рэдактары павінны адчуваць адказнасць. Не хачу кагосьці называць персанальна, мы з вамі размаўляем па-таварыску. Але і запомніць трэба: часопіс, выдавецтва, газета — гэта не чыя-небудзь асабістая справа, гэта справа агульнапартыйная, агульнанародная. І мы ўсе з вамі — на службе ў народа.

А народ наш — за перабудову. Вось і давайце разам з народам ісці нашай лініяй на перабудову, на развіццё сацыялістычнай дэмакратыі. Давайце разам усталёўваць нашы каштоўнасці, змагацца за аздараўленне грамадства.

Калі я аб гэтым гавару, то адначасова зноў і зноў падкрэсліваю: мы за публічнасць без усялякіх агаворак, без абмежаванняў. Але за публічнасць — у інтарэсах сацыялізму. І на пытанне, ці ёсць у публічнасці, крытыкі, дэмакратыі межы, мы адказваем цвёрда: калі публічнасць, крытыка, дэмакратыя ў інтарэсах сацыялізму, у інтарэсах народа — яны бязмежныя!

**М. С. Гарбачоў.** Тут праяўляецца нейкая ахвота да сенсацый. Хіба гэта павінна быць уласціва нашай прэсе? Давайце пісаць сур'ёзна аб самых цяжкіх рэчах,— і сённяшніх, і ўчарашніх, але адказна, навукова, каб па-сапраўднаму распрацоўваць самы цяжкі матэрыял. Калі дапусцілі памылкі, трэба іх выпраўляць. Нават самыя сур'ёзныя. Што ж, у нас не хопіць на гэта мужнасці? Задумалі такую рэвалюцыйную справу — краіну з застою вывесці, і не хопіць у нас мужнасці гэтыя праблемы абмеркаваць так, каб быць аднадушнымі ў сваіх рашэннях і кроках?

Я за тое, каб у нас перамагалі прынцыпы сацыялізму, дэмакратыі, публічнасці, крытыкі. Каб была сумленнасць, адкрытасць. І ўсё, вядома, у інтарэсах народа, а не дзеля якой-небудзь таннай сенсацыі.

Мы падверглі мужнаму аналізу нашы пралікі. Калі быў яшчэ такі аналіз пасля Леніна? Усебаковы аналіз, узважаны. Я думаю, вы разумееце, што мы маглі б многія вострыя факты знайсці, каб праілюстраваць свае вельмі сур'ёзныя вывады і палажэнні. Па любому пытанню. Але хіба цяпер справа толькі ў фактах, каб абвастраць страсці? Я пераканан, што гэта не наш з вамі шлях. Нам трэба будаваць, абнаўляць сацыялізм. Рухаць наша грамадства, апіраючыся і выкарыстоўваючы ўсе сокі, што нам даюць карані, якія глыбока ідуць у нашу гісторыю, і ўжо тым больш у гісторыю сацыялістычную, адсякаючы ўсё негатыўнае, што ідзе з 30—40-х гадоў і з апошняга застойнага перыяду.

Нам трэба ісці наперад і глядзець наперад. А размова па душах для таго і вядзецца, каб яна ў душу лягла. Таму ніякага адкату, ніякага адступлення, наадварот — наперад і наперад!

У сваім выступленні старшыня праўлення Агенцтва друку «Навіны» **В. М. Фалін** сказаў:

Час, у які мы ўжо знаходзімся, вызначаецца, мне здаецца, адной, у ліку іншых, своеасаблівасцю: рост духоўных патрэбнасцей усіх народаў і павышэнне духоўнага фактару ў жыцці кожнага народа, кожнай дзяржавы.

Усе памылкі, якія мы ў гісторыі зрабілі, павінны застацца ў мінулым. У нас няма права на паўтарэнне памылак, на тое, каб рабіць новыя памылкі і калісьці, праз 10—15 гадоў, зноў сябе папраўляць.

Мы, так сказаць, крэдыт давер'я вычарпалі або блізкія да таго, каб вычарпаць. І мы можам сёння пісаць толькі праўду, усю праўду. А калі не ў стане сказаць сёння праўду, лепш наогул не гаварыць нейкі час, пакуль мы не зможам гэтага сказаць пазней, але сказаць так, як трэба. Але, гаворачы аб гісторыі, мы часта ў апошні час захапляемся тым, што б'ём сябе ў грудзі. І гаворачы аб гісторыі, разумеем толькі гісторыю Савецкай дзяржавы і Расіі. А гісторыя не намі адными вычэрпваецца, і многае з таго, што ў нашай гісторыі было, ёсць вытворнае, водсвет ад падзей, якія адбываліся за рамкамі нашай краіны, якія былі вынікам нашых адносін з іншымі краінамі, якія праецыраваліся звонку ў нашу рэчаіснасць.

Сёння, сказаў далей В. М. Фалін, калі вельмі ўважліва сачыць за водгукамі на Захадзе на перабудову, на выніку візіту ў Вашынгтон і на тое, што чакаецца пасля Вашынгтона, няцяжка выявіць, што там пачынаюць рабіць акцэнты зусім не на тыя моманты, якія прысутнічалі і ў мінулым і ў пазамінулым годзе. Ужо няма захаплення ў сувязі з абнаўленнем, дэмакратызацыяй, публічнасцю. Наадварот.

**М. С. Гарбачоў.** І галоўнае, спрабуюць пасеяць няўпэўненасць у нашым народзе. Усё, што на рускай і на іншых мовах народаў ідзе на нашу краіну, накіравана на тое, каб пасеяць сумненні ў тым, што мы ажыццявім перабудову.

**В. М. Фалін.** Гэта адзін бок справы. А другі — падтрымаць, падкінуць новы матэрыял, гаручае ў недавер'е, якое там існавала. У гэтай сувязі хачу сказаць, што намер гэтых вельмі сур'ёзны. Пасля першай сусветнай вайны амерыканцы занялі такую варожую пазіцыю супраць нас таму, што амерыканскі салдат, які вярнуўся пасля фронта, паўстаў супраць уласнай сістэмы. Амерыканскі рабочы пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі запатрабаваў сацыяльных правоў. Пасля другой сусветнай вайны адбыўся паварот у адносінах да Савецкага Саюза не толькі таму, што амерыканцы не хацелі дзяліць з намі плады перамогі. Адміністрацыя ЗША баялася, што пачуцці дружбы ў адносінах да Савецкага Саюза зробяць уплыў на ўнутраную і знешнюю палітыку гэтай дзяржавы.

Гэта прызнаваў Сульцбергер у 1946 годзе, гэта прызнаюць салідныя вучоныя ў сваіх працах і гэта — сапраўдны і рэальны факт. Ёсць дакумент амерыканскай разведкі, дзе рэкамендавалася выйсці ў 1943 годзе з кааліцыі з Савецкім Саюзам, аб'яднацца з фашысцкай Германіяй у той перыяд для вядзення сумеснай барацьбы супраць Савецкага Саюза. Гэта жнівень 1943 года, адразу пасля Курскай дугі. Таму калі глядзець уважліва на тое, што адбываецца ў Злучаных Штатах, мы павінны да гэтага павароту ў настроях аднесціся як да індыкатара вельмі сур'ёзных, наспяваючых перамен і быць да гэтага гатовымі.

Спыніўшыся затым на рэзервах савецкай прэсы ў справе перабудовы, публічнасці, дэмакратызацыі, прамоўца адзначыў, што многае можна зрабіць шляхам мэтазгодных, мэтанакіраваных і сістэматычных акцый. Трэба дабівацца адэкватнасці паміж тым, што публікуецца ў друку, і тымі вынікамі, якія такая публікацыя выкліча. Аднак так бывае не заўсёды. Часам ускрываецца ў газеце абуральны факт, чытач чакае рэакцыі, а яе няма. Паўстае пытанне, навошта ж бударажыць людзей? Атрымліваецца, што ўся публічнасць зводзіцца толькі да права гаварыць аб чымсьці, аб чым нельга было гаварыць, а вынікі крытыкі аказваюцца за бортам. Прамоўца звярнуў увагу на тое, што цяпер ужо ўзнікаюць новыя тармазныя механізмы, якія стварыліся ў працэсе перабудовы.

Затым выступіў галоўны рэдактар газеты «Праўда» **В. Р. Афанасьеў.** Ён адзначыў: Наш друк, не ў апошнюю чаргу і «Праўда», добра папрацаваў на першым этапе перабудовы, калі патрэбна было правесці, так сказаць, інвентарызацыю таго, што ў нас ёсць, дзе мы стаім, якія праблемы ў нас, якія промахі, памылкі, недахопы, куды нам далей ісці. Прычым вельмі здорава ўсе мы навучыліся крытыкаваць. Але потым паразважаўшы, прыняўшы пад увагу і рашэнні XXVII з'езда партыі, і выказванні Міхаіла Сяргеевіча Гарбачова, нельга было не прыйсці да вываду, што адной толькі крытыкай перабудову не ажыццявіш. І вось тут мы сутыкнуліся з самым цяжкім. Тут, прама скажам, «Праўда» дзе-нідзе здала, нейкі перыяд была ў некаторым замяшанні, за што нас на адной з буйных нарад справядліва крытыкавалі. Мы зрабілі з гэтага вывады, прынялі рад экстранных і перспектыўных мер.

Мы лічым, што самае галоўнае цяпер для друку на другім этапе перабудовы — гэта пошук, пашырэнне і падтрымка перадавога вопыту перабудовы ў самых розных яго аспектах: і ў чалавечым, і ў тэхналагічным, і сацыяльна-псіхалагічным. Тут нам трэба цясней падтрымліваць сувязь з партыйнымі органамі, з аддзеламі, кіраўніцтвам Цэнтральнага Камітэта партыі з тым, каб нам атрымліваць і адрасы, і імёны, і рознага роду парады і пажаданні.

Далей. Дрэнна мы шукаем гэты вопыт, дрэнна. А дзе-нідзе нават не ўмеем шукаць. Чаму? Таму што мы, журналісты, недастаткова падрыхтаваны да работы ў новых умовах, да вырашэння новых сучасных праблем. Вазьміце таварна-грашовыя адносіны. Мы імі не займаліся. Навука толкам не займалася. Вазьміце кааператыўны рух, індывідуальна-працоўную дзейнасць — зноў жа мы гэтым не займаліся. Вазьміце чалавечыя, сацыяльна-псіхалагічныя аспекты нашага жыцця — таксама гэтай справай не займаліся. Таму мы пачалі перавучвацца. Мы сталі больш прыцягваць вучоных, людзей кампетэнтных, дасведчаных, але, на жаль, і навука нам пакуль усё ж дрэнны памочнік. Патрэбен, напрыклад, артыкул злабадзённы, цікавы, сучасны. Абыдзеш інстытуты, абзвоніш усіх акадэмікаў і кандыдатаў у акадэмікі, а патрэбнага артыкула не знаходзіш. Іншы раз прыходзіцца рабіць, магчыма, недастаткова кваліфікавана, за што нас і крытыкуюць. Таму і нам трэба вучыцца авалодваць новымі праблемамі, відаць, трэба падцягнуць і нашы грамадскія навукі самым сур'ёзным чынам.

В. Р. Афанасьеў падкрэсліў, што ў апошні час аднаўляюцца механізмы тармажэння крытыкі ў друку. Гэта і адпіскі, і неадпаведнасць прынятых мер па крытычных выступленнях. Гэта і перасаджванне з аднаго крэсла ў другое. І, бадай, самы распаўсюджаны метад — знаходзіць у крытычным матэрыяле маленькую недакладнасць, другую недакладнасць, невялікую, і хоць у прынцыпе артыкул правільны, пачынаць абвяргаць увесь матэрыял. На жаль, не заўсёды мы сустракаем на месцах падтрымку партыйных органаў.

Пытанне аб «белых плямах» у нашай гісторыі, сказаў далей галоўны рэдактар «Праўды», было з усёй праматой пастаўлена ў дакладзе, прысвечаным 70-годдзю Вялікага Кастрычніка. У ім было заяўлена, што нам трэба ліквідаваць гэтыя «белыя плямы». Далей В. Р. Афанасьеў сказаў, што некаторыя аўтары, якія бяруцца за гэтыя тэмы, не маюць ні належных ведаў, ні пачуцця адказнасці. А размова ідзе аб гісторыі вялікай краіны і партыі. І тут неабходны патрабавальнасць, узважанасць і дакладнасць. Прамоўца выказаў у гэтай сувязі свае крытычныя заўвагі па п'есе М. Шатрова «Далей... Далей... Далей!»

В. Р. Афанасьеў заклікаў калег-журналістаў не адступаць ад партыйных прынцыпаў, строга кіравацца імі ў палітыцы, якую выпрацавалі Цэнтральны Камітэт КПСС, XXVII з'езд партыі, наступныя Пленумы ЦК.

Аб імкненні Саюза кінематаграфістаў СССР ствараць у сваёй рабоце атмасферу абсалютнай публічнасці, адкрытага, таварыскага дыялога гаварыў першы сакратар праўлення саюза **Э. Г. Клімаў.** У гэтым, падкрэсліў ён, — важнейшы сродак кансалідацыі ўсіх нашых сіл. Нам трэба вучыцца высвятляць адносіны, спрачацца і слухаць адзін аднаго. З гэтай мэтай у нашым саюзе створан навуковы цэнтр, у якім, у прыватнасці, прадстаўлены сацыёлагі. На аснове анкетавання літаральна ўсіх членаў саюза праводзіцца адпаведны аналіз, які дапамагае карэкціраваць нашу дзейнасць.

Закрануўшы тэму «Рэформа і кінематограф», прамоўца адзначыў, што яна праходзіць няпроста. Цяпер стала намнога лепш відаць тое, што калісьці хавалася «пад вадой». А з-за таго, што рэформа пачала даволі адчувальна закранаць інтарэсы канкрэтных людзей, пачалі ўзнікаць з'явы, аб існаванні якіх раней мы і не падазравалі. Гэта характэрна для працэсу перабудовы ва ўсёй краіне, ва ўсіх сферах.

Добра гэта ці дрэнна? Лепш ведаць тое, што ўзнялося з дна, чым не ведаць. Ці ёсць у кінематографе праціўнікі перабудовы? Ёсць, і яны адкрыта заклікаюць вярнуцца да тых часоў, калі з пэўнага цэнтра пэўным людзям назначалася, які фільм ставіць. Яны хочуць, каб, як раней, захавалася чарга на пастаноўку карціны, каб кожны па чарзе ставіў свой фільм. За дзяржаўныя грошы, натуральна. Але ці ж тая гэта справа — творчасць, — калі кожны павінен працаваць, захоўваючы прынцып чарговасці? Наша рэформа мае на ўвазе творчае спаборніцтва. Толькі цікавая, праблемная, праўдзівая задума, забяспечаная талентам стваральнікаў, мае права на пастаноўку. Цяпер, як, магчыма, ніколі раней, праявілася масавая зацікаўленасць жыць і працаваць інакш.

Прамоўца далей закрануў пытанне аб аўтарскім праве на кінафільм. Яго станоўчае вырашэнне, лічыць ён, не дазволіць «рэзаць» нашы фільмы на 45—60 мінут, як гэта зрабілі, напрыклад, з кінастужкай «Агонія» ў Францыі і ЗША, з якой выдалілі ўсе палітычныя сцэны.

Э. Г. Клімаў назваў лішняй, тармозячай інстанцыяй Дзяржкіно рэспублік. Ёсць прапанова, адзначыў ён, якая ідэальна ўпісваецца ў нашу рэформу, — стварэнне гаспадарча-разліковых вытворчых аб'яднанняў. На такое вырашэнне праблемы, удакладніў прамоўца, ідуць буйныя рэспублікі. Другія ж — за зліццё з мясцовымі міністэрствамі культуры, за стварэнне такіх арганізацый, камітэтаў, дзе былі б і кіно, і Дзяржкамвыд, і Мінкульт. На мой погляд, патрэбна адзіная галіна, якая адказвала б за ўвесь кінематограф.

Прамоўца прыцягнуў таксама ўвагу прысутных да праблемы арганізацыі музея Р. Кармэна, дзе былі б сабраны работы, дакументы франтавых аператараў. Мы лічым, сказаў ён, што адкрываць такія музеі трэба. Массавет жа лічыць, што не трэба. І многія публікацыі ў цэнтральных газетах, выступленні «Пражэктара перабудовы» не прымаюцца ім пад увагу.

Такія сустрэчы ў ЦК сталі добрым урокам адкрытасці, давер'я і адказнасці, сказаў старшыня Дзяржкамвыда СССР **М. Ф. Нянашаў.** Яны аказваюць велізарнае ўздзеянне на характар і змест нашай работы. Нядаўна я вычытаў у адным з выданняў наступнае: для таго, каб у грамадстве магчымы былі перамены, неабходны дзве абавязковыя ўмовы. Першая: вялікія мэты. Другая: вялікія супраціўленні.

Мы, сапраўды, маем вялікія мэты — і сацыяльныя, і грамадскія. Мэты рэвалюцыйныя! З другога боку, мы маем і супраціўленне. Недаацэньваць гэтага мы не маем права. Гавару аб гэтым таму, што зыходжу з праблем, якімі жывуць цяпер выдаўцы. Мы разумеем, што больш за ўсё шкоды выдавецкай справе прынесла бяздумнае паслушэнства, калі ўсё было арганізавана на аснове надзвычай жорсткага цэнтралізму: вось гэта выдаваць, а гэта — не трэба. Цяпер мы імкнёмся да таго, каб распавіць дэмакратычны выдавецкі працэс. Ён у нас абстаўлен такімі велізарнымі бар'ерамі, рэцэнзіямі, водзывамі, што новаму аўтару са свежымі ідэямі, якія не ўкладваюцца ў ранейшыя трафарэты, апублікавацца даволі няпроста. А таму кніга-думка, кніга-палеміка, кніга-дыялог — усё яшчэ рэдкасць. Атрымаўшы падтрымку ў ЦК партыі, пайшлі на радыкальныя меры. Прынялі, напрыклад, такое рашэнне: кожны аўтар мае права на поўную самастойнасць, на сваё трактаванне тэм або іншай з'явы. Выдавецтва ў прадмове кнігі можа сказаць, што яно не падзяляе ў чымсьці пазіцыю аўтара, але лічыць неабходным апублікаваць яе для таго, каб чытач сам ацаніў вартасць працы.

Спыніўшыся далей на тэматычных планах выдавецтваў, прамоўца прызнаў, што тут ніякіх змен няма. Многія манаграфіі, адзначыў ён, напісаны два-тры гады назад, і новых думак яны не нясуць. Справа ў тым, што ў выдавецтвах куды лягчэй працаваць па даручэнню. Перабудову ў выдавецкім працэсе многія разумеюць так: былі, маўляў, няправільныя каманды, а вось цяпер — перабудова, і, значыць, паступяць іншыя, больш разумныя каманды. Якую кнігу выдаваць, якую не выдаваць — гэта павінна вырашаць толькі выдавецтва. Нам трэба займацца стратэгіяй выдавецкай палітыкі, вялікай ідэалогіяй, а не прыватнай, дробнай, адміністрацыйнай.

Прамоўца закрануў праблемы, звязаныя з умацаваннем матэрыяльна-тэхнічнай базы галіны, адзначыў, што недахват паперы часта ставіць у тупік тых рэдактараў, на чые выданні рэзка павысіўся попыт. Ім бы радавацца, а яны бядуюць: дзе ўзяць паперу на павялічаны тыраж, заўважыў ён.

Хачу падкрэсліць таксама, што наша паліграфія — ледзь ці не самая адсталая галіна. Тут ужо нам адступаць далей няма куды. Тым не менш прынятыя рашэнні аб яе развіцці не выконваюцца. Палец аб палец не ўдарылі ні ў міністэрствах машынабудавання, ні ў будаўнічых міністэрствах, ні ў Мінлеспапернпроме. Хіба мы не хочам выпускаць у дастатковай колькасці, скажам, гістарычную літаратуру? У яе выданні быў перыяд, калі мы пазбаўлялі людзей магчымасці ў поўным аб'ёме зразумець, ацаніць грамадска-палітычную думку расійскую. Цяпер ёсць цэлая праграма выдання такой літаратуры, мы пачалі яе ажыццяўляць. Але ж нашы магчымасці настолькі абмежаваныя, што выпуск кнігі дадатковым дзесяцітысячным тыражом — праблема часта цяжка вырашальная. Давялі з 50 тысяч да 200 тысяч экземпляраў падпіску на Салаўёва і Ключэўскага. Попыт жа, вядома, нязмерна большы. А задаволіць яго не можам. Сіл няма.

Мы маем патрэбу ў вельмі сур'ёзнай дапамозе. Бо справа гэта надзвычай важная і патрэбная. Наша паліграфічнае машынабудаванне ў бліжэйшыя пяць-сем гадоў нічога якаснага нам не зможа даць, трэба, нарэшце, вырашыць і праблему паперы.

Першы сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў СССР **У. В. Карпаў** адзначыў узрастаючы аўтарытэт пісьменніцкага слова. Усе часопісы, сказаў ён, павялічылі тыраж, «Новый мир», напрыклад, больш чым у два разы, «Дружба народов» — у пяць, «Литературная газета» прыбавіла да сваёй пастаяннай чытацкай аўдыторыі яшчэ 700 тысяч падпісчыкаў. І павялічыўся тыраж, вядома, не толькі з-за абяцанняў апублікаваць у будучым годзе нейкія сенсацыйныя і «смажаныя» рэчы. Можа, і гэта—я не адмаўляю — зрабіла ўплыў на нейкую частку чытачоў.

(Працяг на стар. 6—7).

**Не бачу падстаў для таго, каб мы секлі пад сабой нейкія карані. Праўда адна. Мы яе не можам раздзяліць па перыядах. Наша гісторыя адбылася, і яе трэба ведаць і асэнсаваць па-сапраўднаму.**

**Гэта — багацейшая навука. Чым больш мы да яе звяртаемся, тым больш разумеем, што нам трэба рабіць і сёння, і заўтра.**

**Мы адзін раз прыходзім на гэту зямлю. І адносіны да чалавека, да яго жыцця і да ўсёй яго справы павінны быць самымі сумленнымі, самымі паважлівымі, асабліва да тых, хто ўзяў на свае плечы асноўны цяжар барацьбы на крутых паваротах нашай гісторыі. Да чалавека нельга дапусціць несправядлівасць і непаважлівыя адносіны, а тым больш — да цэлага пакалення. Гэта будзе злачынства. І калі наш лад вытрымаў усе выпрабаванні, што выпалі на долю савецкага народа, у тым ліку і тыя, якія, як аўтаматныя чэргі, б'юць з мінулага па ўсіх нас, — значыць гэта трывалы, падтрымліваемы народам лад, які мы павінны пастарацца праўдзіва паказаць на ўсіх этапах яго станаўлення і развіцця.**

**Патрэбна дыялектыка, а не шараханне то ў чорнае, то ў белае. У жыцці такога няма, усё ідзе побач, у барацьбе і ва ўзаемасувязі. Вельмі хацелася, каб у нас было адзінае разуменне гэтага — нельга замяняць адну паўпраўду другой паўпраўдай. Усё гэта — наша гісторыя з усімі яе дасягненнямі, стратамі і трагедыямі.**

**Мы ганарымся сваёй гісторыяй, кожным яе днём таму, што, нават калі несправядліва гінулі людзі, якія складалі славу Айчыны, нават у гэты цяжкі час працавалі рабочыя, сяляне, інтэлігенцыя, рухалі жыццё і падымалі дзяржаву да новых вышынь прагрэсу. Таму, калі мы гаворым аб гісторыі, мы не хочам узвялічваць або звяргаць чыесьці персоны, а аддаём належнае народу — сіле, рашаючай у гісторыі.**

**Вельмі, таварышы, тут няпростая дыялектыка, але толькі так можна ісці наперад, сумленна аналізуючы гісторыю, робячы вывады для цяперашняга дня. У пачатку нашай сустрэчы я толькі коратка закрануў гэту тэму. Вы выйшлі на яе, і я палічыў неабходным яшчэ раз сказаць аб тым, што датычыць нашай гісторыі.**

**Вяртаючыся да актуальных задач перабудовы, хачу яшчэ раз падкрэсліць, што галоўнае цяпер — умацоўваць дух народа, падтрымліваць яго барацьбу за перабудову. Трэба паказваць перабудову ў рэальным змаганні грамадскіх сіл. Людзі хочуць перамен, хочуць удзельнічаць у перабудове, але ў многіх выпадках проста не ўмеюць. Не ўмеюць — гэта ж бяда, таварышы! Трэба дапамагаць людзям асвойваць новыя падыходы. Трэба звяртацца і да мінулага вопыту, браць з яго ўсё, што і сёння можа добра паслужыць нашай справе. Мы, як кажуць, павінны дзейнічаць метадам дыялектычнага адмаўлення: увабраць усё лепшае, усё карыснае, што калісьці працавала, служыла нам на ўсіх этапах. А ўсё старое, што аджыло, адкінуць і прырасціць новае. Вось наша формула.**

**Кіраўніцтва КПСС ускладае вялікія надзеі пры вырашэнні новых, вялікіх задач наступнага этапа перабудовы і на тых, хто тут прысутнічае. Давайце будзем ісці наперад упэўнена і цвёрда, і няхай у вас не будзе сумненняў: мы не здадзім пазіцый у палітыцы перабудовы. Мы гэтай палітыцы адданыя да канца. Выбар зроблен, мы нікуды зварочваць не будзем. Але трэба, таварышы, узнімаць усё грамадства, усю краіну.**

**Жадаю поспеху!**

**ТАСС.**

СУСТРЭЧЫ, ГУТАРКІ



# Кандрат КРАПІВА: «ПРЫХОДЗІЦЦА І СЁННЯ ЗМАГАЦЦА З ІМІ...»

Парсюкі, якія займаюць у байках асаблівае месца і ўвасабляюць розныя сацыяльныя тыпы, розныя, так сказаць, мадыфікацыі «свінства» (у п'есе яно потым атрымае абагуленае вызначэнне «свінтус грандыёзус»): «кормны» Руды, якому хляўчук уяўляецца кабінетам і які свайго сабрата «надворнага» не ўпускае да сябе без даклада; свіння Каравая, якая замест таго, каб мяняцца па сутнасці, патрабуе даць ёй новае імя; ганарысты Парсюк, які «не надта быў ахвочы глядзецца праўдзе ў вочы» і на ўсе крытычныя заўвагі ў свой адрас вішчэў: «Ды гэта ж — дэмагогія!»... Пёс, які зрабіў кар'еру на тым, што «нядрэнна ўмеў брахаць.., падчас прамоўцаю лічыўся» і кляйміў усіх запар «дробнымі буржуямі», «дробнаўласнікамі» (праўда, сам тут жа перайшоў з будкі ў «палацы»). Варона, якой агульная «праца не пад густ» і якая выбрала сабе іншы занятак: усё мітынгуе ды крычыць «ура!». А хрэстаматыйна вядомыя Асёл з мандатам, Баран з дыпломам, Угоднікі-маўчальнікі, Янукі-сынкі, «што ў промнях сонца яснага баяцца ценю ўласнага»... У сваёй нататцы, напісанай пад уражаннем ад сустрэчы з Кандратам Кандратавічам Крапівой і надрукаванай у «Полымі» да 90-годдзя з дня яго нараджэння, я ўжо звяртаў увагу на надзвычайную жывучасць, надзвычайную ідэйна-тэматычную, і літарай і духам, актуальнасць баек нашага славутага сатырыка. З гэтай тэмы я і пачаў гутарку, якая адбылася праз два з лішнім гады, у адзін з апошніх, снежаньскіх вечароў мінулага года — у тым жа, з акном на Ленінскі праспект, пакойчыку-кабінеце, за тым жа сталом (толькі адна новая дэталь: у гаспадара з'явіліся яшчэ адны, больш моцныя, тэлескапічныя акуляры). Не абышлося без стандартна - сакраментальнага слова «сакрэт».

— У чым сакрэт?— напружвае слых Кандрат Кандратавіч.— Так яно пачыналася, жыццё было такім у тыя дваццатыя, калі пісаліся байкі і вершы. Прыглядаўся да яго розных фактаў і з'яў... Ну, вядома, факт застаецца фактам, а з'ява з'явай, калі іх не прапусціш праз прызму мастацкага абагульнення. Байка давала магчымасць асэнсаваць грамадскую з'яву, стварыць вобраз.

**— Праўда жыцця рабілася праўдай мастацкай? Вострая сацыяльная відушчасць як умова мастакоўскага спасціжэння... Але сакрэт, Кандрат Кандратавіч, заключаецца, відаць, яшчэ і ў тым, што, на паверку, аказаліся надзіва жывучымі, непраходзячымі падмечаныя Вамі шэсцьдзесят — шэсцьдзесят пяць гадоў назад сацыяльныя тыпы? Вы іх заўважалі, назіралі, высмейвалі, выкрывалі, грамадства падзяляла сатырычна-выкрывальніцкі пафас Вашых баек (ледзь не ўся тагачасная Беларусь ведала і прымала іх), а яны, гэтыя тыпы, стаўшыя персанажамі Вашых твораў, ці, ва ўсякім выпадку, многія з іх неяк змаглі «захавацца», дажыць і да нашага часу, прыкласці сваю руку да застойных з'яў (без Вашых герояў тут не абышлося). І вось сёння прыходзіцца працягваць, па сутнасці, тую барацьбу, якую Вы пачыналі як сатырык у паслярэвалюцыйныя дваццатыя і імя якой сёння — перабудова, рэвалюцыйнае абнаўленне...**

— Гэта так,— пагаджаецца Кандрат Кандратавіч.— Аб'екты колішніх назіранняў, прататыпы некаторых маіх персанажаў жывуць у часе. Так, прыходзіцца вось і сёння змагацца з імі.

**— Можа, яны не былі б такімі жывучымі, можа, нашаму грамадству не трэба было б сёння перабудоўвацца, змагацца з крызіснымі з'явамі, калі б у ім заўсёды падтрымліваўся рэалістычны дух крытыкі і самакрытыкі, дух пастаяннай цвярозай праверкі таго, што зроблена і што неабходна рабіць? Я маю тут на ўвазе і адпаведны маральны, грамадзянскі пафас літаратуры, у прыватнасці яе сатырычнага цэха. Тады, у дваццатых гадах, і пазней Вашы байкі і вершы адразу атрымлівалі зялёную вуліцу, без перашкод ішлі да чытача і, такім чынам, рабілі сваю справу. А вось лёс некаторых Вашых п'ес, у прыватнасці «Мілага чалавека», складваўся, як вядома, — калі часы памяняліся,— менш удала. Ці не так?**

— Узнікалі цяжкасці з пастаноўкай спектакля «Хто смяецца апошнім». Ён быў пад пытаннем: ставіць ці не?

**— Хоць Вы і ішлі ад жыцця, паказвалі праўду?..**

— Так. Але яна, праўда, не заўсёды падыходзіла. Яна іншы раз аказвалася «не да часу», «не пад настрой» грамадству.

**— Вядома, толькі нейкай частцы грамадства? З нейчага пункту гледжання?**

— Так атрымалася з п'есай «Мілы чалавек». Маўляў, народ заняты аднаўленнем гаспадаркі, падымае краіну з руін, а ў п'есе пра нешта іншае... «Не да часу».

**— Але ж падобны «довад» заўсёды можна было знайсці. Пры жаданні. Ці, лепш сказаць, пры адпаведных адносінах да крытыкі, да праўдзівага паказу жыцця.**

— Былі такія «довады» і разам з імі пэўныя дырэктывы, чыніліся перашкоды для гэтага самага, як вы сказалі, крытычнага духу, для жывога, вострага слова мастака. Галоўным аргументам тут было тое, што раз, маўляў, ідзе ідэалагічная вайна, раз бакі ваююць, то нельга выкрываць свае недахопы, крытыкаваць сябе, гаварыць усю праўду: інакш аслабляеш сябе, даеш праціўніку козыры. Так тады лічылася. Жыццё ж паказала, што, наадварот, нельга без праўды, без святла.

Размова заходзіць аб пазіцыі пісьменніка, у прыватнасці сатырыка, у працэсе перабудовы. І хоць Кандрат Кандратавіч заўважае, што «байка на біржы літаратуры не каціруецца», ён у той жа час лічыць, што сатыра сёння павінна ўзняцца на больш высокі ідэйна-мастацкі ўзровень. Я нагадваю аўтару радкі з яго славутых «Угоднікаў-маўчальнікаў»:

«Хто спіць, дык той
не грэшыць».
Заслуга ў нас, аднак, не ў тым,
Каб быць маўчальнікам святым
І гнісці ў абывацельскім «раю»,
Іначай кажучы, ў балоце,
А ў тым, каб з лепшымі ісці
ў страю,
Гарэць-змагацца на рабоце.

**— Радкі, Кандрат Кандратавіч, вельмі сугучныя з часам, з атмасферай сённяшняга жыцця. Як Вы думаеце, наколькі паспяхова ідзе перабудова? І ці ўсе могуць быць свядомымі ўдзельнікамі яе, «з лепшымі ісці ў страю», у прыватнасці тыя, хто ўвасоблены ў сатырычных персанажах Вашых баек і п'ес?**

— Ці ўсе здольныя перабудавацца? Няпростая гэта справа. Адны злоўжывалі ўладай, выкарыстоўвалі сваё службовае становішча ў карыслівых мэтах, для атрымання ўсялякіх ільгот і прывілей. Яны заплямілі сябе прыпіскамі, ашуканствам, супрацьзаконнай дзейнасцю. Другія разводзілі бюракратызм...

**— «Ён забурэў, ён растаўсцеў»... Гэта з Вашай байкі.**

— Былі суб'ектыўна чэсныя людзі. Суб'ектыўна яны гатовы перабудоўвацца, жыць і працаваць па-новаму. Але ці хопіць у іх для гэтага кампетэнтнасці? Сярод кіраўнікоў розных рангаў было шмат людзей некампетэнтных, якія не ведалі, не разумелі і, што яшчэ горш, не хацелі разумець, як наладзіць той альбо іншы ўчастак вытворчасці, сельскай гаспадаркі, гандлю, як арганізаваць справу. Узяць, да прыкладу, хрушчоўскія метады кіравання, калі абавязвалі сеяць кукурузу ледзь не за палярным кругам. А чым больш высокая пасада, тым больш высокі патрэбен узровень кампетэнтнасці і тым больш шкоды прыносіць яе недахоп. Гэта добра, што сённяшнія кіраўнікі праяўляюць дасведчанасць, самі вывучаюць праблемы, ездзяць па краіне і знаёмяцца з жыццём.

Апрача пераадолення некампетэнтнасці, прызначэння на пасады па анкеце, а не па дзелавых якасцях, бачу і іншыя цяжкасці, з якімі сустрэнецца перабудова. Возьмем пераход на гаспадарчы разлік і самафінансаванне. Адно прадпрыемства залежыць ад другога, залежыць ад пастаўшчыкоў, ад сумежнікаў. Нехта не паставіў своечасова матэрыял ці дэталі, і ўсё ляціць. Многія не гатовы псіхалагічна да працы ў новых умовах. Да таго ж застаюцца яшчэ старыя ведамасныя інструкцыі...

Размова зноў вяртаецца да літаратуры. Магчымасці чытаць, знаёміцца з новымі публікацыямі ў Кандрата Кандратавіча, вядома, абмежаваныя, станам здароўя (апошні спектакль, гаворыць ён, глядзеў 13 гадоў назад), але ўсё ж нешта самае істотнае ён не ўпускае з поля зроку. Гаворыць перш за ўсё аб прозе, называе новыя творы В. Быкава, Я. Брыля, І. Шамякіна. З паэзіі выдзяляе апошнія творы П. Панчанкі, зазначае іх публіцыстычную завостранасць: «Паэт гаворыць тое, што хвалюе, што набалела, аб чым ён думае».

**— А як Вы разглядаеце сённяшнюю сітуацыю ў сатырычным цэху? Дэмакратызацыя, галоснасць ствараюць спрыяльныя ўмовы для сатыры і гумару, для смеху і высмейвання...**

— А асаблівых вынікаў не бачна? Можа, таму, што ў дадзены момант поле для сатыры звужаецца. Бо ва ўмовах галоснасці само грамадства крытыкуе, выкрывае негатыўныя з'явы. Да таго ж адбываюцца змены ў тых сферах і галінах, дзе наш брат пісьменнік некампетэнтны зноў-такі. Некалі я ведаў, напрыклад, чым жыве сяло, бо сам касіў, сам сеяў і ўбіраў. А хто з сённяшніх пісьменнікаў ведае, чым жыве вёска, чым жывуць механізатары, спецыялісты, даяркі?

**— Адарваліся ад жыцця?**

— Не, жыццё ад іх адарвалася, пайшло далей. Тут і праблема. Здаецца, у «Правде» нехта нядаўна пісаў аб становішчы сатыры ў сучасных умовах, аб тых задачах, якія ставіць перад ёй перабудова. Пытанне гэтае, вядома, няпростае, яно патрабуе вывучэння. Ясна толькі адно: сатырыкі мусяць сёння, як я ўжо казаў, асабліва дбаць пра мастацкую якасць сваёй прадукцыі, пра глыбіню абагульненняў і яркасць вобразаў.

Асаблівасцю нашай гутаркі з Кандратам Кандратавічам, якая пачалася, як я ўжо казаў, у канцы мінулага года і мела працяг на пачатку года новага, было тое, што мой субяседнік не толькі адказваў на пытанні, але і пытаўся сам, цікавіўся, што новага ў Саюзе пісьменнікаў, у літаратурным жыцці, выказаў свае адносіны да нацыянальна-моўнай сітуацыі. Пісьменнік-акадэмік лічыць, што яе трэба разглядаць з улікам рэальных гістарычных абставін, выказвае аптымістычны погляд на далейшае развіццё нашай культуры і мовы.

— Будуць аказваць уплыў такія фактары, як міжнацыянальныя адносіны, культурнае ўзаемадзеянне,— гаворыць Кандрат Кандратавіч.— Але мова — з'ява вельмі ўстойлівая, жывучая, разлічаная прыродай на доўгае жыццё. Трэба толькі ашчадна захоўваць усё, што набыта ў галіне яе, у галіне лексікі, а, з другога боку, не скажаць, штучна не папраўляць. Заўважаю, напрыклад, што прыналежны займеннік «яго» скрозь, трэба ці не трэба, замяняецца на «ягоны». Гэта калі мужчынскі род. А калі жаночы? Тады трэба гаварыць «ейны»? Ужываецца толькі слова «цеплыня» і зусім знікла «цеплата»...

Пад канец нашай размовы Кандрат Кандратавіч расказвае аб завяршэнні выдання беларуска-рускага слоўніка (выходзіць пад яго рэдакцыяй), аб тым, як аўтарызуе новыя пераклады баек і вершаў, якія неўзабаве выйдуць асобным зборнікам у выдавецтве «Мастацкая літаратура», выказвае шкадаванне, што не можа выконваць у поўнай меры розныя грамадскія, у тым ліку дэпутацкія абавязкі (але ўсё ж, падказвала нявестка Зоя Мікалаеўна, выконвае, працуе, чытае розныя паперы і лісты і адказвае на іх). І яшчэ дадае, што ў курсе некаторых лімаўскіх публікацый і жадае поспехаў калектыву рэдакцыі.

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ.**

ПАЭЗІЯ

**Пімен ПАНЧАНКА**



## З кнігі «ГОРКІ ЖОЛУД»

### *Непрымірымасць*

Мы ў сэрцах пранеслі
Праз кожны бой
На зямлі,
Што прапахла порахам,
Боль і любоў,
Боль і любоў
І нянавісць да ворага.

Калі адгрымела
Крывавае і страшнае,
Мы працавалі
І ў будныя дні, і ў
нядзелі.
Ды ў складаным жыцці
Мы прагледзелі
Нешта важнае,
І пазмрачнелі нашы
надзеі.

Мы ведаем, хто
Загнаў у тупік нашы
справы,
Сёння нас не аслепіць
Яркасць хлуслівага грыму.
У нашых сэрцах,
Што так цяжка дайшлі да
праўды,—
Непрымірымасць,
Непрымірымасць
Да прыхільнікаў
Валу, завалу, развалу,
Падману, прыпісак,
Гультайства і
спажывецтва.

ПРОЗА



**Мікола Гіль**

# Паездка на дачу

апавяданне

ГАННА Пятроўна бегла на работу ў тэхнікум к васьмі, а яе Іван Пятровіч выпраўляўся ў інстытут к дзесяці — на другую пару. Снедалі ж яны разам — і яны, і дзеці. Дзеці выскоквалі за дзверы яшчэ раней за маці — і студэнтка Аня, і васьмікласнік Андрэй. Ганна Пятроўна, навёўшы марафет і апрануўшыся, заскоквала на кухню, дзе за сталом спакваля даснедваў Іван Пятровіч, падстаўляла яму шчаку — вусны былі нафарбаваны — і шаптала:

— Будзь здароў, татусік!

Ён, шмаргануўшы па сваіх губах даланёю, дакранаўся да жончынай шчакі, нават не да шчакі, бо шчокі таксама былі падрыхтаваны для выхаду ў свет, а да вуха і шаптаў у адказ:

— Я люблю цябе, мамусік!

Гэта паўтаралася з дня ў дзень ужо шмат гадоў, амаль нязменна, хіба толькі з невялікімі варыяцыямі, ды і то апошнім часам, калі яны пабудавалі дачу і прыдбалі машыну. Цяпер пасля слоў «Будзь здароў, татусік!» Ганна Пятроўна дадавала: «Не забудзься, пасля работы падскоч на дачу!», або: «Чакай мяне, разам пад'едзем, я сёння вырвуся раней».

Тым днём Ганна Пятроўна, падстаўляючы яму шчаку для пацалунка, шапнула:

— Будзь здароў, татусік! І не забудзь: завязі нашай жыўнасці харч.

— Я люблю цябе, мамусік! — шапнуў ёй у вуха Іван Пятровіч,— Будзе зроблена, будзь спок, не прападзе наша жыўнасць!

— Я цябе таксама люблю, татусік! — усміхнулася яму Ганна Пятроўна і мышкай вышмыгнула з кухні.

Іван Пятровіч падняўся з табурэткі, падышоў да акна і зірнуў уніз, са свайго трэцяга паверха. Праз колькі хвілін ляпнулі ўваходныя дзверы, і з прыступак ганка лёгка збегла жонка. Яна не ведала, што ён глядзіць уніз, на яе, і таму не азірнулася, паправіла на руцэ сумачку і дробненька патрушкавала па дарожцы. Ён глядзеў ёй услед, аж пакуль яна не схавалася за рогам дома. І тады не адразу адышоўся ад акна. Счакаў, пакуль яна зноў паявіцца ў прагале між дамамі, кіруючыся напрасткі да тралейбуснага прыпынку. І толькі зноў згледзеўшы яе на некалькі імгненняў, адышоўся ад акна, пагладзіў сябе па грудзях і сеў дапіваць свой чай.

Любіць ён сваю Ганну Пятроўну. Любіць цяпер, калі ёй стукнула сорак, мацней, пэўна, чым дваццаць гадоў назад, калі яны пажаніліся. Радаваўся, што жонка не растаўсцела, як іншыя, не распаўзлася і не расплылася, як рэптух. Пасля дваіх дзяцей яна засталася такой жа стройнай і танклявай, як і тады, калі была дзяўчынай, толькі нібыта пакрапчэла целам, акруглілася. Падабалася яму і тое, што жонка не паддалася звычнай бабскай слабасці бессаромна распаясвацца перад мужам. Не, яго Ганна Пятроўна, яго мамусік і цяпер, праз дваццаць гадоў сумеснага жыцця, паводзіць сябе з ім неяк надта ж цнатліва, без прытворства і какецтва, і ён штораз зусім па-юначы трымцеў і расчульваўся, ловячы яе ў свае абдымкі і адчуваючы ля сябе яе ўсё тое ж маладое, гарачае, пругкае цела.

Любіць Іван Пятровіч жонку і за тое, што ўмее стрымлівацца, памаўчаць, не лезці ў бутэльку, не даказваць сваю праваты што б там ні стала, урэшце, за тое, што добрая гаспадыня, вядзе іхні сямейны карабель ашчадна і надзейна, што і дзецям здолела перадаць гэтыя свае якасці — Аня і Андрэй растуць ашчаднымі, нават мо скупаватымі, і гаспадарлівымі, дбаюць найперш пра дом, пра сям'ю. Сам Іван Пятровіч таксама, вядома, не любіць транжырыць, аднак пальму першынства ў тым, што дзеці іхнія растуць, не ў прыклад іншым, беражлівымі, аддаваў жонцы, свайму любаму мамусіку...

Іван Пятровіч перамыў посуд, пагаліўся, апрануўся, схадзіў уніз па газеты, пагартаў іх, шукаючы, на чым можа затрымацца позірк. Робячы гэта, недзе краем свядомасці думаў аб тым, як адчытае ён свае дзве па́ры, як адтуль, з інстытута, скокне на аўтастаянку, возьме машыну і паедзе на дачу. І машына, і дача яшчэ па-добраму хвалявалі яго. Ён гаварыў сабе менавіта так: па-добраму, хоць і пагаджаўся з крытыкам, які аднойчы па радыё здзекліва папракаў аўтара адной песні за радок «по-хорошему любим». Маўляў, а як можна любіць па-благому? З крытыкам Іван Пятровіч пагаджаўся, а пра сябе ўсё адно думаў, што машына і дача хвалююць яго таксама менавіта па-добраму. А як жа яшчэ? Ён жа не злодзей, не хабарнік. І машыну, і дачу ён набыў за ўласныя, заробленыя ім і жонкай грошы. Ну, няхай не толькі за свае — памаглі і бацька, і цесць, аднак жа не за крадзеныя. Дык чаму ён будзе хвалявацца па-благому?

І ў тым, што хвалюецца кожны раз, сядаючы ў машыну і азіраючы дачу, таксама нічога благога няма. Усё гэта набыта ім нядаўна, ён яшчэ як след не звыкся, не ўлез у скуру ўладальніка машыны і дачы, і таму, натуральна, хвалюецца. Прасцей кажучы, радуецца. Пройдзе год, другі, трэці, Іван Пятровіч адаптуецца, прывыкне і будзе на ўсё пазіраць спакойна і, можа, нават абыякава. А пакуль што ён радуецца, і хто можа папракнуць яго за гэта? Вядома, вусаценькія сынкі багаценькіх бацькоў адчыняюць дзверцы падараваных ім аўтамабіляў падкрэслена абыякава, яны ад нараджэння ведалі, што ў іх ёсць і будзе заўсёды машына, а ён? А ён вось толькі к сарака пяці ўзбіўся на машыну і дачу, праз многія гады вучобы і працы. Ягонай «лады» яму ніхто не дарыў, ён здабыў, займеў яе ўласным гарбом. Дык чаму яму і не парадавацца ад усведамлення таго, што і ён, хоць і са спазненнем, таксама падняўся ў сваім чалавечым статусе, што ён нарэшце больш не дазволіць сабе прыгорбіцца ад пагардлівага позірку хоць бы таго ж самага нахабнага сынка багатага таты?

Вядома, сёй-той можа сказаць, што не машына і не дача павінны падаграваць чалавечае самалюбства, што не яны вызначаюць яго чалавечы, а тым больш грамадзянскі статус, што, на добры лад, ён павінен пляваць на тое, як на яго паглядзіць хамаватае чада тупога чыноўніка-бюракрата. Усё правільна. Іван Пятровіч гэта разумее. Але разважаць вось так абстрактна, адцягнена заўсёды куды лягчэй, чым практычна нешта рабіць. Жыццё ж вакол зусім не абстрактнае, яно рэальнае. І там усе нашы разумныя гаворкі набываюць вельмі асязальныя абрысы рэальных рэчаў, з'яў, падзей, учынкаў. І той самы статус чалавека ў грамадстве, у калектыве, сярод знаёмых, сваякоў і блізкіх, аказваецца, вельмі і вельмі залежыць ад таго, ёсць у цябе машына і дача, ці няма іх. Людзі зараз такія, што ім жураўля ў небе не трэба. Ім дай сініцу, але — сёння, вось цяпер, неадкладна. А ён, Іван Пятровіч, на жаль, чалавек рэальны, зямны. Зрэшты, чаму — на жаль? Не трэба «на жаль». Ён проста зямны, рэальны, жывы чалавек. А жывому трэба жывое. Гэта ісціна даўняя. І ён свядома, разам з жонкаю, ішоў праз многія гады вось да гэтай прыступкі свайго сацыяльнага, калі хочаце, становішча — мець дачу і машыну. І ён не мае падстаў саромецца такога прызнання. Ён жа не скарыстоўвае іх для здабывання прыбытку. Машына і дача ў яго для таго, каб ягоная сям'я жыла лепш. І матэрыяльна, і духоўна. Таму і парашылі з жонкай, што на дачы абавязкова будуць трымаць курэй і трусоў. І трымаюць. З першай жа вясны завялі курэй і трусоў. Ужо летась увесь час мелі яйкі і мяса. Жыўнасць яны на зіму не звялі: уцяплілі хляўчук, раз ці два разы на тыдзень вазілі курам і трусам харч, і ўсё абышлося найлепшым чынам. З вясны ў іх зноў былі свае яйкі, а к канцу лета і мяса..

З добрым настроем выйшаў Іван Пятровіч з дому, з добрым настроем чытаў студэнтам свае дзве па́ры, з добрым настроем сядаў у машыну ля хаты, паставіўшы на задняе сядзенне падрыхтаваныя Ганнай Пятроўнай торбу і сумку, з добрым настроем імчаў па шашы, чакаючы павароткі на Светлы Гай, дзе была дача і дзе яго чакалі агаладалыя, пэўна, куры і трусы. Стаяла позняя восень — канчаўся кастрычнік, але было суха, сонечна, цёпла. Шэрая стужка асфальту імкліва бегла насустрач. З узбочын цяжка ўздымаліся ў паветры тоўстыя тлустыя вароны і, прапусціўшы машыну, тут жа апускаліся долу, складаючы вялікія, спадыспаду шэра-матавыя крылы,— бачыў гэта ў бакавым і ў салонным люстэрках. Нягледзячы на свой невялікі вадзіцельскі стаж, Іван Пятровіч паспеў усё ж адчуць асалоду хуткай язды, гэтае адчуванне лёгкасці і нейкага ледзь улоўнага душэўнага трымцення, якое спараджае хуткасць. Гэты стан можна, бадай, параўнаць са станам узлёту, адрыву ад зямлі. Машына імчыць хутка, зусім бясшумна, мякка і плаўна, амаль без дрыготкі, і ты на нейкае імгненне забываеш, што машына коціцца па шашы — табе падаецца, што яна адарвалася ад стужкі асфальту і лунае над ёй. Чалавек, які зведаў гэтую асалоду хуткасці, ужо не прадасць машыну — будзе праклінаць яе, будзе скардзіцца на дарагі бензін, на партачоў-слесараў, на благія дарогі, але — не прадасць.

Ды нечакана вуха Івана Пятровіча ўлавіла штосьці не тое. Яшчэ машына кацілася імкліва, як і кацілася, і гэтак жа бегла пад колы шаша, і гэтак жа адплывалі назад прыдарожныя прысады, і гэтак жа лянотна апускаліся на ўзбочыны вялікія тлустыя вароны, але штосьці змянілася. Матор заспяваў інакш. Не заспяваў, а збіўся з песні. Іван Пятровіч насцярожыўся. Нават спалохаўся. Ён мала што разумеў у машыне, яго хапіла на тое, каб хоць неяк асвоіць ваджэнне, і самая дробязная непаладка выводзіла яго з раўнавагі. Што здарылася? Матор працаваў, але нейк не так, з натугаю. Іван Пятровіч націснуў на газ. Матор узвыў, прыбавіў абаротаў, аднак ранейшай лёгкасці і плаўнасці ў яго рабоце не было. Машына ішла быццам па калдобінах, нейкімі рыўкамі. Іван Пятровіч млеў за рулём. Няўжо заглухне? Няўжо давядзецца стаяць? Гэтага яшчэ не хапала! Новая ж машына! Дваццаці тысяч кіламетраў не наездзіў... Толькі паспеў падумаць так Іван Пятровіч, як матор зачмыхаў і заглух. Іван Пятровіч збочыў і спыніўся.

Нейкі час ён сядзеў за рулём нерухома. Потым паспрабаваў завесці машыну. Матор нават і чмыхаць не хацеў — не браўся заводзіцца. Іван Пятровіч тузануў за рычаг капота, вылез з машыны. Падымаў ён капот без асаблівай надзеі: сам наўрад ці знойдзе прычыну гэтага нечаканага выбрыку сваёй любіміцы. Усё было на месцы. Патузаў за правады, што ішлі да вечка размеркавальніка і да свечаў, праверыў узровень масла — так, на ўсякі выпадак, націснуў на рычажок падачы паліва, націснуў пальцамі на клемы акумулятара. А што болей? Нейкай вонкавай прычыны капрызу не было відаць. Сеў за руль, павярнуў ключ. Матор з цяжкасцю, але завёўся. Іван Пятровіч абрадаваўся, газануў раз, другі — матор працаваў. Але калі вылез з машыны, каб зачыніць капот, матор зноў заглух. «Ага, значыць, на малых абаротах не хоча працаваць? — падумаў Іван Пятровіч. — А што ж за прычына?» Прычыны не ведаў. Палез у прыскрынак, дастаў кніжку непаладак аўтамабіля. Прачытаў старонку пра непаладкі матора. Прычын, ад чаго можа глухнуць матор на малых абаротах, было некалькі. Што здарылася ў яго? Каб жа ён ведаў! Парашыў галасаваць. Мо спыніцца хто-небудзь, выручыць. Калі не адрамантуе, дык хоць падкажа, што рабіць.

# На ўсіх адна «Мелодия»...

**Адкрыты ліст да чытачоў, якія цікавяцца беларускімі грампласцінкамі**

Хай даруюць мне тыя аўтары пісьмаў, якіх не называю персанальна. Бо я звяртаюся зараз і да тых, хто не адрасаваў у «ЛіМ» запытальна-трывожных лістоў наконт выпуску і распаўсюджвання беларускіх грампласцінак, але праблему адчувае. Праблема ж даўняя, вастрыня яе не змяншаецца з часам, спараджае ўсё новыя «чаму?». І я дапускаю, што пад пісьмамі пра беларускую грампласцінку, дасланымі ў «ЛіМ», зараз многія паставілі б свае подпісы.

Людзі, якія пішуць у рэдакцыю, скардзяцца, што ў продажы амаль не знойдзеш пласцінак з запісамі беларускіх выканаўцаў, пытаюцца, дзе ўзяць запісы беларускага аўтэнтычнага фальклору і народных казак, традыцыйнай для нашай рэспублікі танцавальнай музыкі; чаму ў магазінах культгандлю не відаць дыскаў Валянціны Пархоменка, Яраслава Еўдакімава, ансамбля «Свята», квартэта «Купалінка», чаму не прадаюцца беларускія літаратурныя і літаратурна-драматычныя запісы, дыскі, выпушчаныя колькі гадоў назад. Такія пласцінкі яны хочуць мець ва ўласнай фанатэцы і хацелі б дарыць нацыянальныя музычныя сувеніры сваім сябрам з іншых рэспублік.

Я зараз узялася за пяро не толькі таму, што пытанні чытачоў — гэта пытанні для газеты. У мяне таксама сабралася пытанняў на гэтую тэму, хаця я і не «рэвізавала» ў крамах паліцы з пласцінкамі, каб выявіць «працэнт» беларускіх. Так рабіў нехта з нашых чытачоў, не падумаўшы, відаць, што гандаль і працэнты — спалучэнне арганічнае, а вось культура і працэнты — недарэчнае. Лічбавыя паказчыкі — не мерка для духоўных набыткаў. Увогуле ж, вітрыны і паліцы аб'ектыўна не пакажуць усяго, што «існуе ў прыродзе». Хіба заўсёды ляжаць у магазінах, напрыклад, дэфіцытныя дыскі з малымі тыражамі або запісы, якія маюць на сённяшні дзень масавую папулярнасць? Ці, наадварот, такія, што недачакаліся свайго пакупніка і прытуліліся на складзе — пакуль не спішуць. Дарэчы, сярод тых «маўклівых» пласцінак, безумоўна, былі ці ёсць такія, па якіх сумуюць і нашы чытачы.

Словам, зайшоўшы ў краму, успомніце параду Казьмы Пруткова і не верце вачам сваім. Ёсць больш дакладнае люстэрка жыцця нашай грампласцінкі.

**У 1979 годзе Усесаюзная фірма грампласцінак «Мелодия» пачала выдаваць штоквартальны каталог-бюлетэнь з гэткай жа назвай. З таго часу я спраўна гартаю гэтае выданне: тут і пазнаваўчая інфармацыя, і творчыя партрэты, і каталог новых дыскаў і касет. Раздзелы ў каталогу разнастайныя: грамадска-палітычныя і дакументальныя запісы; сімфанічная, камерная, оперная, харавая музыка; музыка народаў свету і народаў СССР; канцэртныя праграмы; запісы на мовах народаў СССР; паэзія, проза, драматургія; запісы для дзяцей і юнацтва; аперэта, музыка для духавога аркестра і г. д.**

**Самі па сабе радкі каталога не толькі новая інфармацыя, але інфармацыя для роздуму. Вось бяру адвольна некалькі кніжак гэтага выдання. Гартаю каталогі.**

**...Вільнюскі дзяржаўны квартэт іграе Бартака, Вольфа... Творы нацыянальных кампазітараў іграюць музыканты Грузіі, Літвы, Арменіі, Азербайджана, Узбекістана, Латвіі, Украіны... Аўтарская пласцінка башкірскага кампазітара.., «Арганы Літвы», «Грузінская камерная музыка»... Канцэрты армянскіх, літоўскіх, грузінскіх, кіргізскіх, эстонскіх, латвійскіх артыстаў... «З музычнай спадчыны ўзбекскага народа» (2 пласцінкі), каракалпакская музыка (2), казахская (3), азербайджанская (4 пласцінкі, у тым ліку песні ашугаў), кіргізская (2)... «Букет марыйскіх песень»... Народныя песні і танцы елабужскіх, малмыжскіх, сернурскіх, кіраўскіх мары... «Говар літоўцаў і жэмайтаў; лад жыцця старажытных літоўцаў, аукштайтаў і жэмайтаў...», казкі Андэрсена па-латышску... Музыка татарская, уйгурская, чувашская, цыганская, якуцкая. У каталогах прадстаўлена, вядома, канцэртнае жыццё Масквы, Ленінграда, Сібіры, мастацтва кампазітараў і музыкантаў Расіі, праграмы выдатных замежных выканаўцаў.**

**Колькі каталогаў ні гартай — адзін, тры ці дзесятак, — заўважыць няцяжка, што ў параўнанні з большасцю саюзных рэспублік прадстаўніцтва музычнага мастацтва і літаратуры Беларусі на фірме «Мелодия» яўна прайграе.**

**Чаму? І ці ёсць выйсце з такога становішча?**

**Пытанні банальныя, але досыць няпростыя, і адказаць на іх, пагадзіцеся, — зусім не тое, што тыцнуць пальцам у «вінаватага». Бяру гэтае слова ў двукоссе, бо гукаць: «Хто вінаваты?!» — недарэчна там, дзе вінаватых няма і проста быць не можа. Таму што, як падаецца, мабыць, не толькі мне, няма да каго канкрэтна звяртацца з комплексам пытанняў наконт беларускай грампласцінкі. Няма чалавека, які адпаведна сваім службовым абавязкам персанальна адказвае за яе вытворчасць і распаўсюджванне. Ёсць усеагульная зацікаўленасць на словах — і, па строгім рахунку, агульная безадказнасць на справе.**

**Каб вам, чытачам, не думалася, што я ў палоне эмоцый згушчаю фарбы ці проста гуляю словамі, раскажу пра свае пошукі-доследы.**

Усесаюзная фірма грампласцінак «Мелодия» (і Усесаюзная студыя грамзапісу) належыць Міністэрству культуры СССР. Логіка падказвае: і ў рэспубліканскім міністэрстве павінны быць людзі, якія займаюцца пласцінкамі. Аднак, на жаль, адпаведнай пасады ў штаце нашага міністэрства няма. Толькі дзякуючы энтузіязму рэдактара рэпертуарна-рэдакцыйнай калегіі Упраўлення тэатраў і музычных устаноў Л. Мурашкі вядзецца неабходная работа: складаюцца планы, карэкціруюцца, узгадняюцца з Домам грампласцінак, накіроўваюцца ў Маскву... Гэтак, відаць, суадносяцца «з цэнтрам» і іншыя рэспублікі, бо фірма «Мелодия» адна для ўсіх. Але ж наша рэспубліка, аказваецца, адна з нямногіх у краіне, якія не маюць сваёй сучаснай студыі гуказапісу.

Тэхнічная аснашчанасць студый Беларускага радыё не дазваляе рабіць фанаграмы на ўзроўні патрабаванняў «Мелодии». Будаўніцтва спецыяльнай студыі ў Мінску пакуль толькі мара. Праўда, наведваецца да нас адпаведная машына з Усесаюзнай студыі грамзапісу, але гэта бывае адзін раз у два гады, і брыгада масквічоў працуе толькі на працягу месяца. Пра якую аператыўнасць, мабільнасць і зручнасць можна ў такім разе гаварыць!

Дарэчы, летась наша міністэрства было вымушана адмовіцца ад візіту «перасоўкі», бо на той час вядучыя нашы калектывы і салісты альбо ўдзельнічалі ў Днях БССР на ВДНГ у Маскве, альбо былі ў гастрольных вандроўках, альбо рыхтавалі канцэртныя праграмы пленума Саюза кампазітараў. Няпроста было дамовіцца з «Мелодией», каб перанеслі запіс на студзень новага года. Але ж і цяпер некага з выканаўцаў, уключаных у план, можа не аказацца ў Мінску.

Беларусі патрэбна **ўласная студыя** (як у пераважнай большасці рэспублік, у тым ліку ў суседзяў-прыбалтаў, на прыклад якіх так любяць спасылацца нашы чытачы). Без яе пра гармонію ў нашых узаемадачыненнях з «Мелодией» і думаць няма чаго!

Ну а цяпер пра канкрэтныя справы. Я пацікавілася ў Л. Мурашкі планамі выпуску пласцінак. Адпаведна з імі за апошні час выйшлі «Маленькі прынц» Я. Глебава, Сімфонія № 5 П. Падкавырава, «Памяці паэта» С. Картэса, «Праз усю вайну» У. Мулявіна, пласцінкі, на якіх прадстаўлены вядучыя выканаўчыя калектывы: народны аркестр БССР і народны хор, Мінскі камерны аркестр, хор Дзяржтэлерадыё БССР і Акадэмічны сімфанічны аркестр, салісты беларускай оперы і філармоніі, эстрадны аркестр, ансамблі «Верасы», «Сябры»... Неўзабаве з'явіцца пласцінка Я. Еўдакімава, на чарзе — «Свята» і «Купалінка», дыск са спевамі В. Пархоменка. Плануецца выпуск запісаў аўтэнтычнага фальклору, серыя «Маладыя беларускія кампазітары», падборка «Пяюць лаўрэаты ўсесаюзных і міжнародных конкурсаў» (салісты беларускай оперы М. Гулегіна, Л. Колас, М. Жылюк). Да 70-годдзя БССР рыхтуецца сувенірны альбом «Мой родны кут» (народны хор, народны аркестр, эстрадныя выканаўцы). У планах пласцінкі рок-групы «Сузор'е», вакальнага дуэта Вайханскіх. Распачынаецца серыя «Беларускія народныя казкі» — на аснове фанатэкі рэспубліканскага радыё. Рыхтуецца Купалава «Паўлінка» (знакаміты архіўны запіс радыёспектакля з удзелам Г. Глебава, Б. Платонава), а таксама пласцінка з вершамі сучасных беларускіх паэтаў у выкананні артыстаў. (Рэстаўрацыю радыйных фанаграм робяць спецыялісты на «Мелодии»).

Такія, у асноўным, планы на бліжэйшы год. Думаю, не ўсе чытачы здаволяцца і папытаюць: «А ці не маглі б яны быць паўнейшыя, шырэйшыя? Ці нельга павялічыць колькасць і асартымент пласцінак з беларускай музыкай, літаратурна-драматычнымі і вучэбнымі запісамі і паскорыць іх выпуск?»

Зразумела, планы, якія наша рэспубліка прапануе «Мелодии», ахопліваюць далёка не ўсіх адметных выканаўцаў-інструменталістаў, самабытныя народныя калектывы, лепшыя навінкі творчасці кампазітараў. Пэўна, знайшлі б свайго слухача і вершы нашых паэтаў у аўтарскім выкананні, і даваенныя запісы беларускай музыкі (арыгіналы, з якіх можна «штампаваць» даўнія пласцінкі, напрыклад, з песнямі маладой Александроўскай, захоўваюцца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве кінафотафонадакументаў СССР).

Але многае не ладзіцца ў ланцужку «музыка — слухач — заказчык запісу — вытворчасць пласцінкі — слухач». Паміж прапановай і попытам на пласцінку (у маштабе ўсесаюзным, не толькі нашай рэспублікі) адчувальная дысгармонія, у прычынах якой трэба разбірацца сацыёлагам, псіхолагам, эканамістам.

●

Грампласцінка — дзіця мастацтва і індустрыі, яна адначасова і духоўная каштоўнасць, і тавар. Таму і лёс у яе супярэчлівы. Вось — парадаксальная залежнасць ад тыражу. Дапусцім, рэспубліканскае міністэрства прапануе ў план пласцінку з новымі творамі беларускіх кампазітараў. У дакументах, якія адпраўляюцца на фірму, дырэктар Беларускага дома грампласцінак абавязаны пацвердзіць тыраж, фактычна гэта значыць — узяць на сябе адказнасць за распаўсюджванне пэўнай колькасці будучых пласцінак. Абавязковы тыражны мінімум для пласцінак з эстраднымі запісамі 5 тысяч, для ўсіх іншых — 2 тысячы. (Меншую колькасць экземпляраў заводам выпускаць эканамічна нявыгадна). Гады праз два запланаваная пласцінка ўбачыць свет. Што будзе з ёй далей?

А далей ці не ўвесь тыраж трапіць у рэспубліку. Хто зацікавіцца навінкай? Аўтары твораў, іхнія сваякі, сябры, выканаўцы. Колькі будзе аматараў-пакупнікоў таго дыска? Вядома ж, не дзве тысячы. Бо нават пад час філарманічных прэм'ер і фестываляў сучасная кампазітарская творчасць — пра гэта ўжо столькі разоў гаварылася! — выклікае не масавую цікавасць, а, досыць часта, прэтэнзіі слухачоў і спецыялістаў. «Навязваць» такую пласцінку вясковым клубам, дамам культуры прамысловых прадпрыемстваў, школам, ВНУ — дзеля чаго? І наўрад ці культасветустанова ці прафсаюзны камітэт пагодзяцца выдаткоўваць грошы на пласцінкі, якія будуць лежма ляжаць (асабліва калі ёсць магчымасць набываць відэакасеты). А музычныя вучылішчы, як мне вядома, не маюць пакуль дастатковых сродкаў на пастаян-

## СТО РАДКОЎ ПАСЛЯ ПРЭМ'ЕРЫ

# А чым Тарцюф нам страшны?

**«Тарцюф» Ж.-Б. Мальера (пераклад Р. Барадуліна). Рэжысёр-пастаноўшчык — А. Папоў, мастак-пастаноўшчык — У. Капылоўскі.**

**Акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы. 28 снежня 1987 г.**

«Для яго славы ўжо нічога больш не трэба, гэта ён патрэбны для нашай славы». Згадаў словы Людовіка XIV пра Мальера і падумаў, што наўрад ці купалаўцы памножаць славу вялікага драматурга паказаным спектаклем, але, напэўна, ён не міне бясследна для тэатра...

Пасля першых пастановак п'есы Мальеравай трупаю ў Пале-Раялі і Фантэнбло тагачасныя тарцюфы аб'явілі драматурга дэманам у чалавечым абліччы, які адно агню заслугоўвае разам са сваім ерэтычным пісаннем. Мяркую, тарцюфы сённяшнія выпісалі б пастаноўшчыку А. Папову індульгенцыю разам з прывілеямі. Як ён гэтага дамогся?

Спектакль пачынаецца на высокім эмацыянальным градусе. Неўзабаве напружанасць спадае — дзея замаруджваецца. А



А. МІЛАВАНАЎ (Аргон) і В. ФІЛАТАЎ (Тарцюф).

Фота Ул. КРУКА.

статыка — не саюзнік поспеху ў тэатры...

Сацыялагічны і псіхалагічны бок вобраза двудушнага махляра пад маскаю служкі боскага, канфлікту з ім астатніх персанажаў высветлены не дужа яскрава. Фінальным пераапрананнем героя ў сучасны касцюм і «музычна - фізкультурнымі» паўзамі (маю на ўвазе некаторыя імклівыя мізансцэны пад гучны акампанемент рок-матываў) не пераканаеш гледача ў вечнай трапнасці камедыі Мальера...

Узаемаадносіны персанажаў — неакрэсленыя. За што Аргон паважае (абагаўляе!) Тарцюфа, чаму дазваляе вольнасці пакаёўцы? Некаторыя сцэны занадта доўгія, і акцёры, не атрымаўшы яснае задачы або не справіўшыся з ёю, забываюцца, дзеля чаго яны прысутнічаюць на сцэне. Іх дзеянні «пераліваюцца» ў славесную перапалку, дарма што яна эквілібрыстычная. Сам Тарцюф, паводле рэжысёра і выканаўцы В. Філатава, вельмі ўжо аднаназначны. А хіба ж так лёгка афарбаваць у адзін колер Тарцюфавых спадкаемцаў?..

Далёка да ідэалу і сцэнаграфіі. Шырмачкі — з малюнкам, які выклікае асацыяцыі з чым хочаце, толькі не з французскімі тагачаснымі габеленамі ці шпалерамі, ужо не кажучы пра філасофскія катэгорыі — выконваюць толькі функцыянальную ролю. Музыка, падабраная У. Кур'янам, таксама не дужа ўплятаецца ў тканіну пастаноўкі і стварае фон, вельмі адносна адпаведны задуме рэжысёра (а то і рэжа слых «абсучасніваннем» і без таго сучаснае п'есы).

І ўсё ж... На сцэне ёсць і французскі дух, і беларуская стыхія. Бы з палотнаў Вато сышоў Валер (В. Манаеў), з-пад фраганараўскага пэндзля — сапраўдны гальскі певень Даміс (А. Уладамірскі). Цікавы ў эпізодзе пан Лаяль (Ю. Авяр'янаў). Дый пераўвасабленне В. Філатава ў Тарцюфа, Г. Маляўскага ў Клеянта, М. Кірычэнкі ў афіцэра, асабліва А. Мілаванава ў Аргона трохі іх... «афранцузіла». Выканаўцы жано-

нае папаўненне фанатэкі нават лепшымі ўзорамі

І выходзіць новая пласцінка на радасць аўтару — і ва ўрон дзяржаве, ці не загадзя асуджаная на спісанне, ператвараецца ў абузу для гандлю. А тавар далікатны, крохкі, важдацца з ім прадаўцы, асабліва пасялковых крам, не любяць, і камісійны гандаль тут супрацьпаказаны. «Не ідзе» пласцінка — зніжаюць цану дый, у рэшце рэшт, спісваюць.

На жаль, такі лёс не толькі ў непапулярнай сімфанічнай ці камернай музыкі. На паліцах «адбываюць свой тэрмін» і дыскі з народнай музыкай, і гонар нашай эстрады — бачыла гэта на свае вочы. Нядаўна ўгледзела сярод уцэненых пласцінак аўтарскі дыск аднаго вядомага беларускага кампазітара — з партрэтам на канверце... Дапускаю, што ёсць мо і дзесяць, і сто чалавек, якія выпраўляюцца з вёскі ў мястэчка менавіта па такую пласцінку, што яе купілі б жыхары Паволжа і Далёкага Усходу, але яна марнее ў Мінску, так і не сустрэўшыся з тым слухачом, які быў бы ёй рады.

Відавочна, што за парадак размеркавання, распаўсюджвання далікатнай прадукцыі адказваюць «сем нянек».

●

**Рэдактар фірмы «Мелодия» Л. Садыхава, з якой мы сустрэліся ў Маскве, з 1984 года курыруе беларускія запісы. Яна выказвае зацікаўленасць у тым, каб нацыянальна адметных пласцінак выходзіла больш. Але зусім слушна мяркуе, што дбаць пра гэта павінны і ў рэспубліцы. Прыклад сапраўднай зацікаўленасці, на яе думку, паказала Міністэрства асветы БССР, па ініцыятыве якога будуць выпушчаны вершы М. Багдановіча і М. Танка ў выкананні беларускіх артыстаў.**

**Дарэчы, па спецыяльных заказах пэўных устаноў рэспублікі можна выпусціць пласцінку нестандартным тыражом, напрыклад, 500 экземпляраў. Ды зноў жа — неабходна чыясьці дзейсная зацікаўленасць, каб нашы меламаны мелі, скажам, унікальныя даваенныя запісы беларускай музыкі. Неабходна і дакладнае веданне попыту на пэўныя пласцінкі. А попыт не вывучаецца. Нават аддзел рэалізацыі, які мае «Мелодия», працуе амаль ізалявана ад рэдактуры, для мяне засталіся няяснымі і ўзаемадачыненні яго з Рэспубліканскім домам грампласцінак.**

**Свежай музычнай інфармацыі з месца бракуе рэдактарцы, якая магла б і сама рабіць прапановы наконт выпуску беларускіх пласцінак. Меркаваць пра наша музычнае жыццё Л. Садыхавай даводзіцца толькі па запісах на касетах, якія калі-нікалі дасылае з Мінска дырэктар Дома грампласцінак. Бываць у рэспубліцы на кампазітарскіх пленумах, музычных фестывалях, каб лепш арыентавацца,—такой магчымасці ў рэдактара фірмы няма: абмежаванныя камандзіровачныя выдаткі...**

●

Фірма амаль год працуе ва ўмовах гаспадарчага разліку (своеасаблівая эканамічная рэакцыя на вялікія залежы непатрэбных грампласцінак). У сувязі з гэтым павінны ўдасканальвацца сістэма планавання, сур'ёзна вывучацца попыт слухачоў, вырашацца фінансавыя пытанні. Пакуль сродкі на вытворчасць пласцінак дае Міністэрства гандлю, а, можа, часткова фінансаваць іх выпуск варта і Саюзу кампазітараў, і Музычнаму таварыству?

Зноў думаю пра тое, што «Мелодия» адна, рэспублік многа і статус беларускай грампласцінкі залежыць найперш ад нашай жа ініцыятыўнасці, руплівасці, настойлівасці, ад нашай, можа і так, здатнасці быць цікавымі не толькі для сябе, а і для кагосьці яшчэ. Што ж датычыць сістэмы размеркавання пласцінак у маштабах рэспублікі (ужо не кажу — краіны)...

На Беларусі фірму «Мелодия» прадстаўляе Рэспубліканскі дом грампласцінак. Да ягонага дырэктара В. Тоўсціка я звярталася неаднаразова, але грунтоўнай гаворкі ў нас пакуль не атрымалася. Ён спасылаўся на сваё інтэрв'ю карэспандэнту «Мастацтва Беларусі» (гл. № 2 за 1987 г.): маўляў, усё, што меў сказаць, сказаў. Чамусьці В. Тоўсцік не схацеў казаць мне, якія з беларускіх грампласцінак ляжаць на складзе; што робіць паўпрэд «Мелодии» для папулярызацыі і прапаганды беларускай пласцінкі, ці дбае пра яе рэкламу; ці спрабуе Дом уплываць на перыферыйны гандаль, які мог бы ўзгадняць з мясцовымі органамі культуры свае заказы на колькасць тых або іншых пласцінак з разлікам на культасветработнікаў, настаўнікаў (дасюль прыблізныя лічбы бяруцца «з паветра»)... Мне падалося, што такія пытанні дырэктару проста не даспадобы, і ў рэшце рэшт я вырашыла болей не марнаваць час дзелавога чалавека, які заўжды спяшаецца. Тым больш, што ён ужо мімаходзь пацвердзіў самае істотнае: многіх сённяшніх непаразуменняў не было б, калі б у рэспубліцы пабудавалі студыю, калі б прадстаўнікі гандлю вывучалі і дыферэнцыравалі попыт насельніцтва на пласцінкі, калі б у дзіцячых садах, школах папулярызавалася разнастайная музыка, прынамсі, беларуская.

●

Вось, бадай, і ўсё. Расчаравала вас маё пісьмо? Сапраўды, пытанняў ад яго не паменела, але ж цяпер, спадзяюся, на іх звернуць увагу кампетэнтныя людзі ў самых розных інстанцыях і, спадзяюся, будуць шукаць адказаў. На гэта спатрэбіцца час. Так што, дарагія чытачы, калі вы неўзабаве зноў напішаце ў «ЛіМ» пра грампласцінку, нічога новага мы вам пакуль не скажам.

Сёлетні год пачынаецца доўгачаканым візітам «перасоўкі» з прадстаўнікамі «Мелодии». А гэта ўжо гарантыя, што калекцыя беларускіх пласцінак папоўніцца навінкамі. Няхай яны зацікавяць і парадуюць вас.

**С. БЕРАСЦЕНЬ.**

# І ПА-РАНЕЙШАМУ ЗДЗІЎЛЯЕ...

**Амаль палову свайго жыцця Б. Герлаван працуе ў купалаўскім тэатры, куды яго прывёў і дзе даў першыя ўрокі майстэрства выдатны сцэнограф беларускай сцэны А. Грыгар'янц. Гэта адбылося на пачатку шасцідзесятых гадоў, калі ламалася эстэтыка бесканфліктнага тэатра і ўжо не задавальнялі звыклыя дэкарацыі тых часоў — не больш, чым дакладнае ўвасабленне рэмаркі драматурга. Сцэнаграфія мусіла зрабіцца вобразнаю, метафарычнаю, мусіла загаварыць моваю тэатра і толькі тэатра.**

**Сёння ў творчым актыве заслужанага дзеяча мастацтваў БССР, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР Б. Герлавана, які нядаўна адзначыў свой залаты юбілей, — больш за сорак спектакляў. І кожны раз, адгукаючыся на рэжысёрскую задуму, абапіраючыся на літаратурную першакрыніцу — п'есу, Герлаван здзіўляе пастановачную групу, а потым і гледачоў нечаканым, арыгінальным, заўсёды адметным вырашэннем. Цікавасць гледачоў да спектакляў «Святая святых» І. Друцэ, «Зацюканы апостал» і «Пагарэльцы» А. Макаёнка, «Раскіданае гняздо» Я. Купалы, «Рэвізор» М. Гогаля, «Плач перапёлкі» І. Чыгрынава, «Парог» А. Дударава, «Аптымістычная трагедыя» У. Вішнеўскага, «Брама неўміручасці» К. Крапівы і шмат якіх іншых у многім выклікана высокім узроўнем афармлення, дзе пошукі мастака ў арганізацыі сцэнічнай прасторы, у перадачы каларыстычнымі сродкамі драматургавай і рэжысёрскай задумы далі пэўны плён. Сцэнічныя метафары Герлавана дапамагаюць гледачу ўспрымаць спектакль і адначасова вымагаюць актыўнага роздуму, суперажывання. Прыгадайце, напрыклад, цвёрдую, рытмічную канструкцыю ў «Апошнім шанцы» паводле В. Быкава... А вось у вадэвілях Далецкіх і М. Чарота «Ажаніцца — не журыцца» і спектаклі «Апошні журавель» А. Дударава і А. Жука ім ужыты зусім іншы прынцып афармлення, дзе пераважае так званы народны пачатак. Але маляўнічасць, жывапіснасць не самамэтныя, яны скіраваны на стварэнне атмасферы спектакля.**

**Пасля першай сумеснай работы («Што той салдат, што гэты» паводле Б. Брэхта) я ўжо не ўяўляю, як буду працаваць з якім іншым мастаком. І я бясконца ўдзячны лёсу, які звёў мяне з такім творцам і такім абаяльным чалавекам. Для мяне Б. Герлаван, як і любімая ўсімі намі Стэфанія Міхайлаўна Станюта, — сумленне купалаўскага калектыву, яго душа. Можна шмат гаварыць пра высакароднасць, інтэлігентнасць, сціпласць, добразычлівасць галоўнага мастака купалаўскай сцэны, пра яго незвычайную любоў да працы, да прафесіі, пра яго выключную працаздольнасць (ён сваімі рукамі даводзіць кожную драбязу і ў макеце, і на сцэне). А вось на паклоны пасля прэм'ер яго трэба цягнуць сілком...**

**Валерый РАЕЎСКІ.**

чых роляў таксама блізкія да чагосьці мальераўскага, але больш вонкава, бо, пры ўсёй раскаванасці і пэўнай графічнай блізкасці да жывапісных постацей таго ж Вато ці Бушэ або Шардэна, ім усё ж бракуе натуральнасці. Іх гераіні нейкія знешне націскныя, унутрана бязгучныя. Мушу толькі зазначыць, што Г. Арловай (пані Пернэль) няма дзе «разыграцца», а Г. Фёдаравай, А. Іваннікавай і Т. Пузіноўскай прыйдзецца яшчэ рупліва пашукаць сваю «ізюмінку», хоць працы ўжо, відаць, укладзена нямала.

Даўно не бачыў купалаўцаў у такой досыць высокай моўнай форме. Мяркую, гэта вынік не толькі працы над сабою, але і спецыфікі вершаванае п'есы: тут не зменіш слова, якое не запомнілася ці, даруйце, не спадабалася. «Віноўнік» нараджэння гэтай змушанасці — перакладчык камедыі Р. Барадулін, які, на маю думку, папоўніў скарбонку беларускага мастацкага перакладу яркім здабыткам. Можна было пачуць: пераклад залішне літаратурны або прастамоўны (п'еса ўсё-ткі французская!). Але ж высокая драма заўсёды была і высокай літаратураю, выключэнняў тут не ведаю (хіба што трэба заснаваць новую школу перакладу?); што ж да частых у беларускім тэксце камедыі «простых» слоў, дык варта згадаць, што Мальер, як і Шэкспір, узбагаціў літаратурную мову бурлівымі вірамі жывое гамонкі плошчаў і кірмашоў.

Хоць я ўсяго свайго
пазбаўлены дазвання,
Ды з драбязы тае, што маю,
без вагання
Я сотню б залатых наскроб
на барышы,
Каб змог такой цаны
ад радасці душы
Так шандарахнуць чым, каб
гэта морда знікла,

— кажа Аргон Клеянту, хоць і цішком.

Дык ці будзе страшны нам Тарцюф на купалаўскай сцэне?.. Ці захочацца нам аддаць апошнія грошы, каб «шандарахнуць» яго?..

**Алесь АСТАШОНАК.**

# НЕ БАЯЦЦА БЫЦЬ ДОБРЫМ

**Заслужанаму артысту БССР Міхаілу Пятрову выпаў шчаслівы акцёрскі лёс і трывалая папулярнасць сярод юных аматараў тэатра. А іх, аматараў, змянілася ўжо некалькі пакаленняў...**

**— Міхаіл Уладзіміравіч з нагоды вашага юбілею...**

— Мне пяцьдзесят? Ужо? Але ж адчуваю сябе такім маладым! Напэўна, таму, што ўсе дваццаць восем гадоў адпрацаваў у ТЮГу.

**— Як па-вашаму, што ёсць акцёрская папулярнасць і як вы да яе ставіцеся!**

— Папулярнасць акцёра дзіцячага тэатра — гэта, хутчэй за ўсё, папулярнасць сцэнічнага персанажа. Дзецям не важна, хто іграе на сцэне — Іваноў, Сідараў ці Пятроў. Ім важна, як завуць героя спектакля. У ТЮГу складана быць папулярным у агульнапрынятым сэнсе гэтага слова. Але не схаваю, прыемна пасля спектакля на вуліцы ці ў метро пачуць ад дзяцей рэплікі з уласнай ролі. Мяне ж за акцёра ні на вуліцы, ні ў метро не прымаюць: дзядзька і дзядзька, такі самы, як усе...

**— Калі вы вырашылі зрабіцца акцёрам і як ім зрабіліся!**

— Я з дзяцінства чым толькі ні займаўся! Жылі галадна, бедна, але хацелася паспрабаваць сябе ва ўсім. Не было ніводнага гуртка, куды б я ні паткнуўся, дый спортам займаўся. У Мінску на рэспубліканскім конкурсе мастацкай самадзейнасці я, як той казаў, трапіў на вока К. М. Саннікаву. Ён параіў паступіць у БДТМІ. Адну з перадэкзаменацыйных кансультацый праводзіла Л. І. Мазалеўская, якой я пачаў чытаць тое ж, што чытаў на конкурсе, — паэму А. Твардоўскага «Васілій Цёркін». Чытаю. Быццам, добра чытаю. Раптам Любоў Іванаўна просіць прабачэння, перапыняе мяне і пачынае на маім прыкладзе тлумачыць абітурыентам, як... «не трэба чытаць». У інстытут я паступіў, але «як не трэба» запомніў на ўсё жыццё. А на чацвёртым курсе Любоў Іванаўна запрасіла мяне ў Беларускі рэспубліканскі тэатр юнага гледача. І як «загрузіўся» з першага дня працаю, дык без перапынку і працую.

**— Вы сыгралі больш за сотню роляў...**

— Не магу сказаць, што ў мяне сярод іх ёсць нейкая надта любімая. Кожную ўпадабаў, бо я ж акцёр. Тутсама Марат Казей з аднайменнага спектакля (п'еса В. Зуба), Кот Базіліо з «Прыгодаў Бураціны» (паводле А. Талстога), Мішка з «Чырвоных д'ябалятаў» (п'еса А. Палявога), Карлсан з «Прыгодаў Карлсана» і «Новых прыгодаў Карлсана» А. Ліндгрэн, Труфальдзіна з «Зялёнай птушкі» К. Гоцы, Блюм са спектакля «Пэпі Доўгаяпанчоха» А. Ліндгрэн, блазан Фэст з «Дванаццатай ночы» У. Шэкспіра, Яўмен і Соцкі са спектакля «Чаму ж мне не пець» Я. Купалы і М. Чарота, Дзед са спектакля «Шукай ветру ў полі» В. Ліўшыца... Усіх не пералічыш. Мне дужа шанцавала. Я заўсёды іграў толькі свае ролі — ад піянераў да старых. Праўда, першага свайго старога сыграў у дваццаць пяць гадоў, у спектаклі «Бялее ветразь адзінокі...» паводле В. Катаева.

**— Шмат хто дагэтуль згадвае вашага блазна Фэста са спектакля «Дванаццатая ноч».**

— Так, роля Фэста зрабілася падзеяй у маім творчым жыцці. Не часта даводзіцца іграць у шэкспіраўскай п'есе, і тым больш прыемна, калі яго ставіць адзін з маіх любімых рэжысёраў — Б. Эрын. Як іграць блазна, які спалучае ў сабе і камедыю, і трагедыю, і высокую паэзію? За яго іранічнымі рэплікамі мусяць быць высокі інтэлект, філасофскае ўспрыманне свету, вялікая любоў да жыцця, унутраная свабода. Былі знойдзены месцы ў ролі, калі Фэст, як бы адштурхоўваючыся ад дзеяння, выцягваў са складак касцюма кнігу і паглыбляўся ў чытанне. Блазнаў каўпак і кніга падаюцца рэчамі несумяшчальнымі; вось гэтая несумяшчальнасць і сталася ключом да вырашэння вобраза...

**— Вас запрашалі ў многія «дарослыя» тэатры: у Мінску, Кіеве, Маскве, аднак вы застаяцеся верным ТЮГу.**

— Апошняе запрашэнне я атрымаў зусім нядаўна... Але я — тутэйшы. Каб зразумець тэатр, трэба ўкласці ў яго сваё жыццё. Я патрэбны ТЮГу, а ён патрэбны мне. Магчыма, я тут дзеля дзяцей, якія кожны дзень прыходзяць у тэатр і кантакт з якімі мне неабходны. Тых, хто адыходзіць, забываюць на трэці дзень... Калі такі шлях мне выпаў, дык трэба ісці па ім да канца.

**— Міхаіл Уладзіміравіч, усе адзначаюць дзіўны кантакт, які ўзнікае ў вас з глядзельнай залай. Як вы яго дасягаеце!**

— Напэўна, у кожнага ёсць свой рытуал перад выхадам на сцэну. Для мяне спектакль пачынаецца раней за трэці званок. Я павінен зазірнуць у глядзельную залу, убачыць яе, пачуць, адчуць, «на любоў сваё сэрца настроіць». Згодны, што кожнае дзіця — гэта маленькі цуд. А калі ў зале пасядзе пяцьсот цудаў? Яны вельмі строгія, намнога больш строгія за дарослых, яны не даруюць фальшу. Іх давер нельга абмануць, але і павучаць іх не трэба. Што трэба? А проста дзяліцца з імі радасцю, трывогамі, няўдачамі — такімі самымі, якія ёсць у кожнага з іх і якія, дарэчы, азначаюць для іх не менш, чым для дарослага чалавека.

**— Якімі прафесійнымі і чалавечымі якасцямі павінен валодаць акцёр!**

— Цяпер часта гавораць пра дэфіцыт дабрыні. Дык вось, я лічу, што акцёр павінен не баяцца быць добрым. А сваё права выхаду на сцэну ён мусіць даводзіць пастаянна, і не пустымі размовамі. Думаю, што ў дзіцячым тэатры прастора паміж акцёрам і гледачом павінна быць запоўнена любоўю і цеплынёю.

Інтэрв'ю ўзяла
Святлана ДЗМІТРЫЕВА.

# СПАКОЙНА! ТОЛЬКІ СПАКОЙНА...

**«Нефармальнае мастацтва» літаральна ўварвалася ў спакойную плынь нашага жыцця, выклікала разгубленасць... Аднак час эстэтычнай нецярпімасці мінае. Сёння мы можам глядзець некалі «крамольныя» карціны, прымаць ці не прымаць іх і — думаць, разважаць, спрачацца...**




З ЧЫЁЙСЬЦІ *лёгкай* рукі гэтых мастакоў называюць «нефармаламі» і нават «авангардыстамі». Урэшце, вазьму і я гэты тэрмін — «авангардысты» — напракат. Хочацца разабрацца: што ж спавядаюць яны, да якой мэты імкнуцца праз сваю творчасць? Яна ж, гэтая творчасць, не ўпісваецца ў звыклыя каноны мастацкай практыкі, у кантэкст «афіцыйнага» мастацтва, часам выклікаючы вакол сябе не надта здаровыя гаворкі, тым самым ствараючы мастакам рэкламу, нават славу непрызнаных геніяў.

Сапраўды, на якой выстаўцы яшчэ ўбачыш такое мноства мудрагелістых камбінацый ліній, плоскасцей, кропак, разгортванне на палотнах граней прадметаў, іх адначасовую праекцыю? Або старыя ржавыя краны, прымусы, паяльныя лямпы, бляшанкі з-пад кансерваў, сабачыя чарапы, разадраныя лялькі, мясарубкі, стаптаныя боты, а то і матацыкл, на якім уладкаваўся «жалезны рокер»-робат і ультрасучасная муляжная дзева ў адпаведнай вопратцы?.. Увогуле можна скласці доўгі спіс гэтых дзіўных усплёскаў творчай энергіі «нефармалаў», але хто чытаў Мантэня, той ведае, што чалавецтва нічым здзівіць нельга. Тым больш, што знаўцу гісторыі мастацтва добра вядомы авангардысцкія вопыты 20-х гадоў і больш позняга часу.

Дык, значыць, вярнуліся і да нас цені кубізму, поп-арта, абстракцыянізму, «канцэптуальнага» і кінетычнага мастацтва, гіперрэалізму і да т. п., як вярнуўся з 50-х гадоў рок-н-рол? Мо і не знікалі гэтыя «ізмы» з пэўнага мастакоўскага кола, а толькі набылі новую трактоўку? Я ведаю, што ў свой час такімі эксперыментамі забаўляліся А. Кішчанка і А. Зіменка, Г. Скрыпнічэнка і У. Тоўсцік, А. Марачкін і А. Кузняцоў...

Мне давялося бачыць некалькі неафіцыйных, «нонканфармісцкіх» выставак у Маскве: на Прафсаюзнай вуліцы — гасразліковага аб'яднання «Эрмітаж», дзесяці мастакоў-жывапісцаў «з Малой Грузінскай» у павільёне ВДНГ СССР на Фрунзенскай набярэжнай. Я гутарыў з адным з мастакоў—Аляксандрам Куркіным. І вось што ён сказаў: «Вядома, мне крыўдна, што мае работы не застаюцца на радзіме. Даводзіцца іх прадаваць за мяжу, бо нават у мастацкія салоны мне і маім таварышам няма доступу: мы не члены Саюза мастакоў, пра нас проста не ведаюць...»

Думаю, што ў гэтых адносінах жыццё нашых «нефармалаў» больш спакойнае: ад Саюза мастакоў яны прынцыпова не хочуць залежаць (але ж ад закупак саюзам сваіх работ не адмаўляюцца), за мяжу творы не прадаюць (пакупніка няма?), а што датычыцца папулярнасці, дык яе сёння ім не пазычаць. Сапраўды, выстаўкі — у кінатэатрах, Доме кіно, у Палацы мастацтваў, на вуліцы Калектарнай і праспекце Машэрава ў Мінску, у выставачных залах Віцебска, Наваполацка, нават у Эстоніі — далі спажыву для роздуму не толькі журналістам, мастакам і мастацтвазнаўцам, але і кіраўнікам культуры ўсіх рангаў.

Што ж уяўляюць сабой сённяшнія нефармальныя аб'яднанні, групы «Форма», «Галіна» і віцебскі «Квадрат», што ўзніклі *перш за ўсё, як сцвярджаюць* іх удзельнікі, у адказ на час застою ў грамадстве і, адпаведна, крызісу «афіцыйнага» выяўленчага мастацтва?

Удакладнім склад гэтых аб'яднанняў. Тут людзі вельмі розныя, большасць мае мастацкую адукацыю, некаторыя не такія ўжо і маладыя (35—40 гадоў). Але дзіўна іншае: у аб'яднанні, якія, па сутнасці, супрацьпаставілі сябе Саюзу мастакоў БССР, уваходзяць і некаторыя члены саюза і маладзёжнага аб'яднання—С. Войчанка, У. Цеслер, А. Шалюта, В. Шылко, А. Малей, А. Слепаў, а таксама І. Кашкурэвіч, С. Малішэўскі, І. Цішын, С. Лапша, Г. Хацкевіч і іншыя. Ёсць у аб'яднаннях і людзі, якія маюць да мастацтва прыблізныя адносіны: як правіла, яны або вынаходлівыя самавучкі, або проста бойкія арганізатары, так сказаць, «ідэолагі» сваіх груп, здольныя тонка выкарыстоўваць час галоснасці і дэмакратызацыі для дасягнення такіх сумніцельных мэт, як эпатаж публікі, танная сенсацыйнасць, самарэклама.

Словам, склад «нефармальных» аб'яднанняў даволі стракаты, супярэчлівы, нягледзячы на выпрацаваныя імі ўласныя тэарэтычныя праграмы і маніфесты.

**Працытую некаторыя фрагменты з гэтых праграм.**

**Вось што пішуць члены аб'яднання «Форма» ў «Вячэрнім Мінску» (12.XII. 1987 г.): «І ў тыя часы (застою. — Б. К.) жылі мастакі, якія аддалі перавагу невядомасці і незалежнасці, а не кан'юнктуры і фальшываму пафасу, доўгія гады іх творы адвярґаліся і пыліліся ў каморах... Сітуацыя прымусіла многіх з іх стварыць нефармальныя аб'яднанні... У асноўным у іх уваходзяць маладыя мастакі, і можна колькі хочаш крытыкаваць іх і іхнія работы, але важна зразумець, што яны — носьбіты сваёй новай самасвядомасці, якая не можа не адбіцца на іх разуменні часу, мастацкай мовы і стылю».**

**«Нас аб'ядноўвае актыўная творчая пазіцыя, непасрэдны водгук на актуальныя праблемы дня, імкненне адлюстроўваць шырокую панараму рэчаіснасці... Сваім другім нараджэннем мы абавязаны прагрэсіўным працэсам, якія адбываюцца ў нашым грамадстве дзякуючы перабудове... Многія з нас імкнуцца востра і дынамічна бачыць наваколле, спалучаючы іронію і жальбу, рамантыку і сарказм, знаходзіць нечаканы паварот падзеі, уважліва ставіцца да чалавека, яго трывог і радасцей, спадзяванняў і расчараванняў, абараняць яго перад магутнай бюракратычнай машынай, перад дагматыкамі і схаластыкамі...» («Галіна»).**

**«Квадрат» — (напэўна, па назве вядомай карціны Казіміра Малевіча?) — аб'яднанне віцебскіх мастакоў, створанае на аснове адзінства поглядаў на праблемы ў выяўленчым мастацтве».**

Як жа на практыцы рэалізуюцца дэкларацыі і маніфесты мастакоў? Нядаўна, напрыклад, мы бачылі маладзёжную выстаўку ў Палацы мастацтваў, на якой былі прадстаўлены і творы «крытычнага рэалізму» групы «Галіна». Прызнаюся, я доўга шукаў адпаведныя маніфесту работы. Ну вось сатырычная варыяцыя на злабадзённую тэму — «Запрашэнне ў Глаўк» В. Азенблоўскага, вось алегорыя «Угледзься ў адлятаючы чатырохкутнік» з цытатамі з біблейскай міфалогіі А. Пашкевіча, невыразны «Рух па нахіленай плоскасці» А. Бяляўскага, трывожнае «Прысвячэнне Н. С.» І. Акулава. Што яшчэ? Убачыў прафесійныя пейзажы В. Баранкевіча, колерапластычныя фантазіі А. Тарановіча, музейную вытанчанасць палотнаў І. Сурмачэўскага... Спыніўся перад цыклам тэмперных навел С. Катранкова (пазней я зноў убачыў работы гэтага мастака — чамусьці ўжо на выстаўцы «Перспектывы»... аб'яднання «Форма»)...

Дык дзе ж ён — «непасрэдны водгук *на актуальныя праблемы дня*»? *Дзе тое* «імкненне адлюстраваць шырокую панараму рэчаіснасці», якое так горача і страсна заяўлена ў маніфесце? У гэтым аспекце віцебскія мастакі са сціплымі праграмнымі задачамі, хоць зорак з неба, як кажуць, не ўхапілі, але прымусілі спыніцца перад сваімі творамі, многім з якіх, можа, яшчэ нестае прафесіяналізму, пластычнай культуры. Мне даводзілася праводзіць у Віцебску абмеркаванне выстаўкі аб'яднання «Квадрат». Так, былі спрэчкі, рэзкае адмаўленне часткай гледачоў мастацкай платформы групы. Але былі і пазітыўныя меркаванні ў адносінах, скажам, да прытчавых, пабудаваных на алегорыях работ А. Малея, колеранасычаных палотнаў В. Шылко, асабліва яго нацюрмортаў. Можна шмат чаго чакаць ад Ю. і Т. Рудэнкаў, якія эксперыментуюць у габелене, ад Н. Дасужава і В. Чукіна, якія шукаюць новыя вобразна-пластычныя сродкі ў жывапісе і гуашы.

Настойлівыя пошукі — часта супярэчлівыя, эклектычныя, блытаныя — характэрны для мастакоў-нефармалаў.

Аднак жа ўкаранілася думка, што мастацкая стылістыка сама па сабе змястоўная, бо ўвага канцэнтруецца непасрэдна на працэсе творчасці, на эстэтычным падтэксце, на «знакавасці», зразумелай толькі ў сваім цэху (і то не заўсёды). Я зусім не аспрэчваю індывідуальнасць. Наадварот. Кепска толькі, калі чалавек становіцца рабом рафінаванага рамяства, не ўдасканальваецца як творчая асоба, бо толькі пазбавіўшыся звыклых стэрэатыпаў, мастацтва можа стаць **сацыяльным.** Няхай для адных мастакоў—гэта адлюстраванне гора, пратэсту, для другіх — радасці, але заўсёды павінна захоўвацца духоўная ніць, якая звязвае творчасць з людзьмі, з нацыянальнай культурай.

А што мы бачым у «нефармалаў»?

У некаторых мастакоў палотны стракацяць ад колеравых вычварнасцей, ліній і *трохкутнікаў, неўразумелых* сімвалаў, фантазій, падобных на хваравітыя сны. Звычайны чалавек, зірнуўшы на такія работы, напэўна, жахнецца: няўжо гэта *прадказанне будучыні?!* Чалавечыя муляжы-лялькі, бляшанкі, абкручаныя шарсцянымі ніткамі, трубкі ад процівагаза, чорны крыж з накінутай на яго скуранкай, цвікі, замкі, ланцугі, іншыя складаныя і нескладаныя металічныя канструкцыі з глыбакадумнымі назвамі — «Тэрмінал», «Белы рыцар», «Дафін», «ПГК» і іншыя — уключаюцца ў складаную гульню людзей з рэчамі. І унікальны крохкі свет чалавечай асобы аказваецца безабаронным перад бяздушнымі аўтаматамі, якія звышхутка плодзяцца ў тэхнакратычным свеце, смерць перамагае жыццё...

Няма сумнення: мастацтва «нефармалаў» — палемічнае, задзірлівае, яго не так проста ацэньваць. Нават у самых *неверагодных скульпта-карцінах*, скажам, А. Жданава і скульпта-муляжах С. Малішэўскага, калі добра паднапружыцца, *можна знайсці штосьці для сябе.*

Дарэчы, мастацтва такога роду не надта патрабавальнае да свайго гледача, бо нібы імкнецца аблегчыць работу яго-нага інтэлекту: амаль кожную кампазіцыю можна трактаваць як хочаш. І пэўны глядач адчувае сябе сярод гэтых рэчаў разумным, духоўна багатым, інтэлектуальным, далучаным да «не такіх, як усе». Камусьці імпануе здзекавацца са здаровага сэнсу, камусьці падабаецца перавернутая рэальнасць. Але больш за ўсё творчасць гэтых мастакоў, асабліва групы «Форма», на маю думку, нагадвае размовы-чуткі пра іншапланецян, пра чорную магію, перасяленне душ, энергетычных вампіраў і пра іншае, што бударажыць уяўленне і пра што так прыемна пагаварыць з сябрамі за кубачкам кавы...

Наўрад ці сёння хто-небудзь будзе шукаць тайны сэнс у адлюстраваных квадратах, спіралях, мазаіках маляўнічых плям... Але калі ёсць у кампазіцыі хоць бы намёк на мастацкі вобраз, дык перад гледачом паўстае натуральная праблема: увязаць твор са сваім жыццёвым вопытам, ведамі, проста з тым, што бачаць вочы. Тым не менш, як асэнсаваць, напрыклад, «Леваслаўны сувенір» К. Гарэцкага? Антытэза—ад «праваслаўнага»? А бясконцыя «кампазіцыі» і «паверхні» пад нумарамі? Што яны нясуць у сабе? Новую колерамузыку? Інтуітыўныя мастакоўскія адчуванні? Гармонію або дысгармонію наваколля? Ці падлягаюць расшыфроўцы жалезныя «аб'екты» У. Лапо або карціна «Купанне паўдзённай статуі» А. Бялова?

Але, можа, гэта не ўсур'ёз? Чым не дасціпныя рэбусы — опусы С. Лапшы або «Сплюснутае вядро» С. Малішэўскага? Або мудрагелістая металічная канструкцыя І. Кашкурэвіча пад назвай «Па́пана» (ад маманта?).

Можна не згаджацца з творамі такога роду, але ў кожнага аўтара на тое свой адказ. Маўляў, каму што падабаецца...

І ўсё ж ад многіх твораў робіцца ніякавата. Вось назвы некаторых з іх: «Гібель пеўня», «Ніхто», «Некропаль», «На смерць гітары», «Лязо брытвы», «Эшафот», «Пацукамахія», «Мёртвы горад», «Спалены панк», «Мёртвая зона», «Шыбеніца», «Лахманы», «Назойлівы воўк», «Тупік з шэрай лесвіцай»... Можа, менавіта ў гэты «тупік з шэрай лесвіцай» і зайшло сённяшняе маладзёжнае мастацтва? Надта ж празрыстыя намёкі: няма ў жыцці гармоніі і сэнсу, людзі адзінокія, бессэнсоўныя іх пытанні і адказы, адзін не чуе другога...

Вядома, з усяго гэтага можна пасмяяцца і, паціснуўшы плячыма, пайсці з выстаўкі. Аднак мастацтва «нефармалаў» — гэта не розыгрыш. Гэта — канцэпцыя аўтараў, іх погляд на свет, стаўленне да рэчаіснасці і мастацтва, іх сістэма каштоўнасцей. Пакуль яны толькі спрабуюць ставіць пытанні (праўда, часам не зусім зразумелыя), адказаў жа — проста не ведаюць. Калі я спытаў у некаторых мастакоў, які сэнс яны ўкладалі ў той або іншы твор, яны так і казалі: наша справа задаваць пытанні, ваша — адказваць на іх... Ці не таму некаторыя аўтары перад вернісажам так лёгка адракаліся ад назваў сваіх работ і мянялі іх на іншыя?

Не, справа тут не ў адсутнасці ў многіх таленту і прафесійнага ўмельства: іх дастаткова ў такіх мастакоў, як І. Цішын, С. Войчанка, У. Цеслер, С. Лапша, Я. Кірылаў, С. Малішэўскі, А. Тарановіч, У. Лапо, І. Кашкурэвіч, Р. Май, Л. Бяляўскі і іншыя. Справа ў разуменні імі мэты і ролі мастацтва. Для адных творчасць — служэнне, для другіх — стыхія самавыяўлення. Трэба толькі выбраць...

Ну, вось, скажам, поп-арт, што шумна ўвайшоў на некаторыя «нефармальныя» выстаўкі мінулага года. Што азначае гэты тэрмін? Вось як трактуе яго крытык А. Дабравольскі ў артыкуле «Пра што гэты крык?» («Звязда», І.Х.1987 г.): «Вядро і моркаўка снегавіка, футры скамарохаў, валасы і пер'е ў афрыканскіх, індыйскіх, славянскіх народных святах і цацках—вось адкуль вырас поп-арт (папулярнае, г.зн. народнае мастацтва)... Чаму ж нашым мастакам трэба адмаўляцца ад гэтых традыцый, спосабаў выражэння? Хто забараніў?» Далей А. Дабравольскі піша, што «асваенне фальклорных традыцый закладзена ў стылістыцы поп-арта»... Але ж гэта далёка не адпавядае ісціне, урэшце — проста бязглуздзіца!

**Нашэсце поп-арта, як вядома, пачалося ў 1955 годзе, калі малады амерыканец Роберт Раўшанберг нечакана выставіў самы звычайны ложак з коўдрай і падушкай, якія былі перапэцканы алейнай фарбай (прыгадаем ложак з чорнай коўдрай на выстаўцы «Фрагмент-87» у Доме кіно). Сам тэрмін «поп-арт» прыдумаў захавальнік музея Гугенхейма крытык Лоўрэнс Элоўэй. Нагодай для гэтага паслужыла карціна аднаго англічаніна, які напісаў на сваім палатне слова «поп». Што гэта азначае — сказаць цяжка. У паўсядзённай гаворцы «поп» — гэта масавая танная прадукцыя, пазначаная пячаткай штампа, вульгарнасці. Слоўца «поп», магчыма, азначае не больш, чым «дада» — бессэнсоўны гук, які ляпеча немаўля (адкуль пайшоў знакаміты, узведзены ў ранг сучаснай класікі дадаізм). Тое, што называюць «поп-артам», сапраўды ўяўляе сабой паўтарэнне дадаізму часоў першай сусветнай вайны... Яшчэ ў 1914 годзе М. Дзюшан выставіў за сваім подпісам веласіпеднае кола і сушылку для бутэлек. А праз тры гады ўразіў свет звычайным пісуарам, выстаўленым у Нью-Йорку пад назвай «Фантан». Мастак растлумачыў сваю выхадку жаданнем праэксперыментаваць грамадскі густ: «Прымусіць публіку праглынуць усё гэта — вось што мяне захапляе!»**

**Стоп! А ці не такія пасылкі маглі ўзяць сабе на ўзбраенне і некаторыя нашы «папісты»? Інакш чаму яны раптам, знарок ці міжволі, «цытуюць» Ван-Рыса, Пікабіа, Курта Швітэрса, Раўшанберга, Д. Джонса, якія стваралі разнастайныя калажы і контррэльефы з рэальных рэчаў хатняга ўжытку, ануч, механічных дэталей, газет, прадметаў санітарыі і гігіены, металічнай арматуры і да т.п.?**

**Словам, няма прычын вітаць у асобе пэўных маладых прадстаўнікоў «Формы» нараджэнне «новага напрамку», як гэта робяць некаторыя мастацтвазнаўцы і саматужныя тэарэтыкі, падводзячы пад гэтае «мастацтва» эстэтыка-метадалагічны падмурак. Бо з'яўленне «папізму» ў мастацтве нашых нефармалаў—простае паўтарэнне заходняга «поп-арта» 50—60-х гадоў. Дарэчы, бацька дадаізму Р. Гюльзенбек хутка закінуў такія гульні ў мастацтва і стаў вядомым у Нью-Йорку... псіхіятрам.**

Вядома, чалавек недасведчаны, выхаваны на дрэнных, няякасных рэпрадукцыях Рэпіна, Васняцова, Сурыкава, Шышкіна са школьных падручнікаў, будзе абурацца: маўляў, адкуль гэтыя ашаламляльныя фантазіі тыпу абстрактнага жывапісу або «поп-арт» у сённяшняй мастакоўскай моладзі? Навошта пра іх так многа пішуць і гавораць? На Захадзе — зразумела. Але ў нас?

Бясспрэчна, што «нефармальны рух» узнік як адказ. Адказ на шматлікія фальшывыя, беспраблемныя нашы так званыя «тэматычныя» выстаўкі. Далучэнне да авангардысцкіх эксперыментаў — горкі плён застарэлых памылак учарашняй мастацкай палітыкі. Гэта адказ на ведамасную раз'яднанасць у галіне выяўленчай культуры, на недапушчальную некампетэнтнасць у мастацтве многіх кіруючых кадраў на ўсіх паверхах грамадскай і дзяржаўнай лесвіцы. Гэта і адказ на архімарудную перабудову выставачнай дзейнасці і прапаганды ў Саюзе мастакоў.

Вядома, няма нічога больш простага, як спісаць усё на гады застою, абвінаваціць ва ўсім мінулае праўленне саюза і яго высокіх апекуноў. Але прайшло два з паловай гады пасля красавіцкага Пленума ЦК КПСС і дзевяць месяцаў пасля рэспубліканскага з'езда мастакоў. А што зроблена? Размовы, заклікі, пражэкты, абяцанні, рэзалюцыі... А «неразумным маладым» карціць. Яны чакаць не хочуць і з адкрытым забралам ідуць у бой. Часта — без зброі, г.зн. без грунтоўнай прафесійнай падрыхтоўкі, але маючы пад рукой часопісную прадукцыю на ўсе густы, маляўнічыя альбомы (натуральна, не айчыннай вытворчасці) і добрую інфармацыю пра тое, што адбываецца на ніве мастацтваў у Прыбалтыцы, Маскве, Ленінградзе або Ерэване... А камусьці вельмі патрэбна гаварыць пра здань мадэрнізму, якая нібы блукае ў беларускім мастацтве. І адразу некаторыя паважаныя маэстра спяшаюцца прылічыць маладых «нефармалаў» да падрыўнога клану фармалістаў. Ганіць іх лёгка. Але не вінавата немаўля, што нарадзілася непісьменным. Ці не вінаваты ў гэтым самі педагогі, іх духоўныя настаўнікі? У гады фарміравання тых, каму цяпер за трыццаць, дзейнічаў жорсткі прынцып, які заганяў у вузкія рамкі любыя віды самастойнай творчасці. І, вядома ж, ствараў зручнае асяроддзе для віруса слупняку, які паразіў урэшце нашу мастацкую інтэлігенцыю. Не, мастацтва не замерла, з'яўляліся ж сур'ёзныя творы таленавітых аўтараў, але творчая атмасфера разбуралася па ўсіх параметрах. Што патрабавалася ў падобнай абстаноўцы ад маладых мастакоў? Перш за ўсё — не высоўвацца. Мець свае погляды, адстойваць перакананні было нялёгка...

«Нефармальнае мастацтва», якое проста ўварвалася ў спакойную плынь нашага жыцця, выклікала ў многіх разгубленасць, высвеціла нашу непадрыхтаванасць да дыялогу з гэтай моладдзю. Ад яе прасцей за ўсё адмахнуцца. Так і было спачатку. Ці не з-за таго ўтварылася глыбокая «шчыліна» паміж Саюзам мастакоў і «нефармаламі», якая можа неўзабаве ператварыцца ў бездань? Зразумела, няма ніякіх падстаў перашкаджаць развіццю «нефармальнага мастацтва». Ды ўрэшце яму сёння і не перашкаджаюць. Відаць, час густавой і эстэтычнай нецярпімасці прайшоў...

Дарэчы, адсутнасць у рэспубліках Прыбалтыкі «нефармальных» мастацкіх аб'яднанняў менавіта тым і тлумачыцца, што там ніколі не было забароны на маладзёжныя выстаўкі любых фармальных кірункаў і пошукаў. Тое ж і ў некаторых іншых рэспубліках: у канцы лістапада ў Тбіліскай карціннай галерэі была адкрыта «Першая групавая выстаўка абстрактных работ мастакоў Грузіі». І нічога ж не здарылася!

Моладзь не хоча жыць па-старому, а па-новаму яшчэ не ўмее. Старыя «візуальныя» формы, кан'юнктурныя тэмы і сюжэты яна адмаўляе, аднак... Нічога новага ўзамен не прапануе. Тыя нестандартныя «канцэптуальныя» ідэі, якія маладыя спавядаюць, абарочваюцца зноўтакі старымі, праўда, добра падзабытымі, клішэ авангардысцкага мастацтва. Словам, «плюс» мяняецца на «мінус», «тэматычныя» творы—на «абстрактныя» і іншыя звышзавумныя рэчы. А дзе ж уласная пазіцыя? Дзе незалежнасць думкі?

Няма сумнення, ва ўсякім разе мне хочацца ў гэта верыць, што найбольш таленавітыя «нефармалы», перахварэўшы «авангардам», знойдуць сваё месца ў духоўна насычаным, высокім мастацтве. Пытанняў тут шмат. І, думаю, яны не застануцца без адказу на VII з'ездзе мастакоў СССР, які днямі пачынае сваю работу.

**Барыс КРЭПАК.**

**БТ: РАЗАМ ЛЯ ЭКРАНА**

# З НАВАГОДНІМІ КЛОПАТАМІ

Сустрэча Новага года ля экранаў тэлевізараў зрабілася для нас справаю звычайнаю і нават традыцыйнаю. Праўда, святочныя перадачы часцей вымагаюць крытыкі, чымся надаюць асалоды, але надзея на тое, што з экрана ў хату сыдзе нешта радаснае і хвалюючае, нікога не пакідае.

Сёлета аўдыторыя мела асабліва багаты выбар, бо тры святочныя дні календара і пераднавагодні вечар значна пашырылі панараму прэм'ер. Таму і беларускую тэлепраграму, напэўна, планавалі такім чынам, каб яна не замінала навагоднім прадстаўленням з Масквы і дапаўняла-разнастаіла праграмы Цэнтральнага тэлебачання. Перадач, аўтары якіх памяталі пра свята, было няшмат, да таго ж большасць з іх адрасавалася дзецям (што само па сабе зразумела). Затое маладзёжная «Тэлегумарына» імкнулася ўлічыць самыя розныя запатрабаванні гледачоў і гасцей студыі. Яна не толькі ўдала спалучыла клаунаду і эстрадную песню, класічную музыку і сучасныя танцы, але і падала дзеянне жартоўна, ярка, запамінальна і з густам. А вось тэлефестываль «Песню бярыце з сабой» не пазбыўся заарганізаванасці і манатоннасці. Не дапамагло і Украінскае тэлебачанне: яно, як той казаў, толькі «брала ўдзел» у падрыхтоўцы перадачы; празмерна зацягнутаю, невыразнаю яе маглі зрабіць і «мясцовымі сіламі».

Нядзельная рубрыка «Вечар — разам» прапанавала нам ёлачны карагод са старшакласнікамі горада Маладзечна і іх бацькамі. Але характар сустрэчы вызначылі не вясёлыя гульні, жарты і пругкія музычныя рытмы: на першы план выйшла жаданне выпускнікоў асэнсаваць сваё месца ў жыцці, разабрацца ў яго складанасцях і супярэчнасцях. Так святы саступалі месца будзённым клопатам...

Працоўны тыдзень не перапыніў навагодніх прэм'ер. Наадварот, гледачы паспелі адзначыць, што самы «дарагі» — вячэрні тэлевізійны час зрабіўся больш насычаным, разнастайным і змястоўным. На яго прыпалі і дзелавыя гутаркі, і навукова-пазнавальны часопіс і мастацкія цыклы... Перш-наперш трэба адзначыць з'яўленне доўгачаканай мастацка - публіцыстычнай праграмы, якая выйшла пад вядомаю рубрыкай «Ліра». Яе аўтары прапанавалі некалькі змястоўных і грунтоўных інтэрв'ю з дзеячамі літаратуры і мастацтва, работнікамі выдавецтваў і кніжнага гандлю, настаўнікамі. Праўда, першаму выпуску відавочна нестае палемічнасці, вастрыні, а то і шырокай грамадскай думкі, аднак жа сам зварот да набалелых пытанняў беларускай культуры і далікатная іх падача маладым вядучым У. Сцепаненкам (трэба адзначыць ягоную дасціпнасць, шчырасць, валоданне мовай) абяцаюць творчы плён.

Сама назва перадачы «Аб'ектыў перабудовы» падказала гледачам тэматыку і характар новай перадачы. Цяпер кожную суботу Беларускае тэлебачанне мае прапанаваць нам уласны варыянт усесаюзнай праграмы «Пражэктар перабудовы». Неабходнасць яго з'яўлення і існавання відавочная, але, на жаль, першы каментарый В. Харкова не дадаў вядомай тэме «Чалавек і перабудова» ні новых фарбаў, ні хоць бы адценняў, — як і аналіз работы Мінскага мотавелазавода ва ўмовах самафінансавання, і думкі працаўнікоў прадпрыемства.

Яшчэ адзін зварот да старой і заўсёды актуальнай тэмы — дакументальны фільм рэжысёра і аператара Гомельскага тэлебачання А. Кашэўнікава «Летаргія», прысвечаны Дому дзіцяці і яго выхаванцам, сіротам пры жывых бацьках. Шкада, што прэм'ера тэлефільма прайшла так будзённа і сціпла — стужка вартая ўвагі і разумнай рэкламы. А вось перадача з Віцебска «Бумеранг», што распавядала пра школу-інтэрнат, так і не здолела пазбыцца штампаў-стэрэатыпаў.

Навагоднія прэм'еры экрана міжволі зрабіліся тым камертонам, на якім глядач будзе «настройвацца» на тэлепраграмы ўсяго месяца. Таму нельга абмінуць традыцыйныя рубрыкі. Перадпавагодні выпуск грамадска-палітычнай перадачы «Я і мы» прадэманстраваў адметную публіцыстычнасць і змястоўнасць аналізу з'яў жыцця. На пастаянныя кантакты скіраваў студэнтаў тэлемост паміж універсітэтамі Мінска і Кракава, праведзены У. Рудамётавым і А. Марозавым. Вызначыў грамадскую думку журналіст П. Шаўчук у часопісе «Здароўе»: трэба перапыніць злоўжыванне мінеральнымі ўгнаеннямі, бо нітраты ў гародніне, асабліва ў бульбе, яўна перавышаюць норму. Цікава прагучала і размова гродзенскай журналісткі Н. Сакаловай, нягледзячы на сваю «спецыялізаваную» сельскагаспадарчую тэматыку.

Беларускае тэлебачанне працягвае свае праграмы. І новыя, цікавыя, разнастайныя, і тыя, што абмяжоўваюцца звычайным напамінам гледачам пра важнасць падзей, спраў і тэм сённяшняга жыцця. Таму тэмпы і якасць працы шмат каго з тэлежурналістаў задаволіць гледачоў ніяк не могуць.

**Людміла ШЫЛАВА.**

# ПРОСТАЕ І ЎЗНЁСЛАЕ ХАРАСТВО

Так, спачатку было слова. Яно стала «Словам пра паход Ігаравы», яно стала і «Полацкімі летапісамі», якія дагэтуль захоўваюць таямніцу жыцця нашых продкаў. А ці толькі слова было спачатку? А як наконт «мусікійскага» мастацтва — другой філасофіі (так гаварылі пра музыку вядомыя асветнікі XVII стагоддзя Іакім Коранеў і наш Мікалай Дзілецкі)? Якою яна была, напрыклад, у часы легендарнай Прадыславы — Ефрасінні Полацкай?

Пакрысе, так сказаць, па ноце мы паступова адбудоўваем музычнае асяроддзе, музычна-мастацкую свядомасць тых людзей, якія жылі калісьці на нашай зямлі,— аднаўляем сваю гісторыю. Ды ўсё ж тая спрадвечная далячынь застанецца для нас таямніцай. А ці ж можа таямніца не вабіць, не захапляць? Тым больш, існуе і машына часу, якая можа дапамагчы ўявіць нам чалавека з далёкага мінулага ці нават цэлую эпоху. Гэта — Музыка! Таленавітая, глыбокая, філасофская музыка, да якой так імкнецца чалавек канца XX стагоддзя.

Прыкладна гэтак я думаў, слухаючы аўтарскі канцэрт Андрэя Мдзівані, што паказала нядаўна Беларускае тэлебачанне.

У актыве кампазітара багата адметных, цікавых, неардынарных твораў самых розных жанраў, у тым ліку шэсць сімфоній, але А. Мдзівані не памыліўся ў выбары музыкі для аўтарскай справаздачы: прагучалі два ці не лепшыя буйныя творы, дзве апошнія сімфоніі — пятая («Памяць Зямлі») і Шостая («Полацкія пісьмёны»).

Як знакі нашай гісторыі гучаць назвы частак Пятай сімфоніі: «Сафійя», «Мсціслаў», «Вежа», «Тур», «Знамен». І быццам працяг — «Полацкія пісьмёны». Прысвячэнне 1125-годдзю Полацка...

Такое здараецца — творца падпадае пад абаяльную прыцягальнасць тэмы, велізарнай тэмы, і не можа спыніцца ў сваім мастацкім даследаванні, пакуль не вычарпае сябе да рэшткі, да дна душы!

Шостая сімфонія А. Мдзівані — гэта спроба традыцыйнымі сімфанічнымі сродкамі абудзіць нетрадыцыйныя пачуцці ў сувязі з сівой гісторыяй. Шостая сімфонія —не ўвогуле «пра нешта мінулае», у ёй аўтар імкнецца ўдумліва асэнсаваць пераемнасць розуму і культуры беларускай зямлі, на якой жылі і стваралі Францыск Скарына, Сімяон Полацкі. У гэтым творы чуеш шматмерны, нават эўрыстычны вобраз мінулага, — «абліччы» (назва І часткі) гістарычных асоб і іх пісьмовую спадчыну (II частка). І ў гэтай сімфоніі, як і ў Пятай, зноў гучыць хор, як сімвал сэнсу чалавечага жыцця: усё робіцца на Зямлі людзьмі дзеля людзей.

**Данат ЯКАНЮК.**

ПРАЦЯГ РАЗМОВЫ

**Уладзімір АРЛОЎ**

# ПАД ЗНАКАМ ДНЯ ЎЧАРАШНЯГА

**Артыкул Анатоля Сідарэвіча «А гэтага ў кнізе няма» («ЛіМ», 20 сакавіка 1987 г.) закранаў пэўныя недахопы школьнага падручніка па гісторыі БССР і праблемы выкладання гэтага важнага гуманітарнага прадмета ў школе. У нумары газеты за 14 жніўня мінулага года Валянцін Грыцкевіч у рэцэнзіі «Каб ведалі факты» падзяліўся думкамі пра падручнік гісторыі БССР для ВНУ. Публікацыі выклікалі шырокую чытацкую пошту. Аўтары лістоў пішуць пра неабходнасць шырокага абмеркавання праблем, узнятых названымі публікацыямі. Сёння пад рубрыкай «Працяг размовы» мы друкуем развагі над гістарычнымі падручнікамі пісьменніка Уладзіміра Арлова і ліст, дасланы ў рэдакцыю кандыдатам гістарычных навук вядомым археолагам Алегам Трусавым.**

ЛЮБОЎ да Радзімы перш за ўсё абуджае родная гісторыя. Немагчыма не пагадзіцца з гэтымі словамі Уладзіміра Караткевіча, што сталі ягоным крэда. Спасцігаючы мінулае, пранікаючы ў скарбніцу матэрыяльнай і духоўнай культуры продкаў, чытаючы летапіс іхніх пакутаў, подзвігаў і змагання за лепшую долю, чалавек выхоўвае ў сабе само пачуццё Радзімы, адказнасць за яе лёс. Разам з тым нацыянальная гісторыя — брама, праз якую мы ўваходзім у гісторыю сусветную, каб вызначыць у ёй месца і перспектыву свайго народа.

Пра ўсё гэта яшчэ раз падумалася, калі чытаў у «ЛіМе» артыкулы А. Сідарэвіча «А гэтага ў кнізе няма» і В. Грыцкевіча «Каб ведалі факты», якія нарэшце распачалі даўно наспелую гаворку пра якасць падручнікаў па гісторыі БССР для школы і для ВНУ.

Пазнаёмімся бліжэй з апошнім выданнем «Гісторыі БССР» (на рускай мове), якое выдавецтва «Народная асвета» выпусціла ў 1985 г. і па якім цяпер вучацца нашы школьнікі.

Першыя ж параграфы нараджаюць шмат пытанняў, а затым і пачуццё непаразумення. Чаму, гаворачы пра ўзнікненне гарадоў, аўтары падручніка забываюць першыя згадкі летапісу пра Полацк (862 г.) і пра Тураў (980 г.), а пачынаюць адпаведную храналогію з Бярэсця (1019)? Чаму, апавядаючы пра барацьбу супроць татара-мангольскіх заваёўнікаў, абмяжоўваюцца пералікам спаленых і разбураных гарадоў і маўчаць пра тое, што зямля нашых продкаў пазбегла трохсотгадовага ярма прыхадняў? Нагадаем, што гэтую адметнасць развіцця беларускай народнасці палічыў неабходным адзначыць у сваёй рабоце «Знешняя палітыка рускага царызму» Фрыдрых Энгельс. Чаму Грунвальдскай бітве, якая сталася выдатным прыкладам ратнага пабрацімства славянскіх і літоўскага народаў і шмат у чым вызначыла далейшы гістарычны лёс беларусаў і іхніх суседзяў, аўтары падручніка адвялі ўсяго пяць няпоўных радкоў? Хіба зацікавіць вучня адно канстатацыя таго факта, што бітва адбылася і нямецкія рыцары былі разгромлены? Дзе схема бітвы, яе апісанне? Якія, урэшце, яе вынікі і значэнне? Чаму падручнік маўчыць пра чынны ўдзел беларусаў у гусіцкіх войнах? (У 1422 г. князь Вітаўт паслаў на падмогу гусітам пяцітысячнае рушэнне, вялізнае, у маштабах тае эпохі, войска). Падобныя пытанні можна доўжыць і доўжыць.

Кніга ў вельмі значнай ступені дэперсаналізаваная, у ёй адчуваецца востры дэфіцыт характарыстык і нават імёнаў вядомых дзеячаў нашай гісторыі і культуры. Літаральна некалькі слоў падручнік прысвяціў князю Усяславу Чарадзею, дзяржаўную мудрасць і патрыятызм якога геніяльны аўтар «Слова пра паход Ігаравы» ставіў у прыклад іншым старажытнарускім князям. Даўно ўжо мінуліся часіны, калі псеўдагісторыкі і псеўдазмагары з рэлігіяй называлі Ефрасінню Полацкую цемрашалкаю, але па-ранейшаму пра асветніцу, адну з самых адукаваных жанчын свайго часу ва ўсёй Еўропе, беларускі школьнік з падручніка гісторыі не даведаецца анічога. Можа, аўтараў напалохала тое, што Ефрасіння кананізавана? У такім разе чаму яны не баяцца называць імя князя Аляксандра Неўскага? Ён жа таксама быў абвешчаны святым, бо, як вядома, кананізацыя выдатных дзяржаўных і культурных дзеячаў здавён была адным са спосабаў, якімі царква імкнулася ўмацаваць свой аўтарытэт. Пра гэта сведчыць, дарэчы, і той факт, што праваслаўная царква мяркуе кананізаваць Андрэя Рублёва і Дзмітрыя Данскога.

Не знойдзем у падручніку ані згадкі пра палкаводца XIV ст. Давыда Гарадзенскага, што паспяхова змагаўся з крыжакамі, стрымліваючы агрэсію Лівонскага ордэна. Нядаўна ў Гродзенскім музеі гісторыі рэлігіі і атэізму дзейнічала мастацкая выстаўка, прысвечаная 660-годдзю з дня смерці Давыда. Сярод наведнікаў музея было шмат экскурсантаў-школьнікаў. На аб'явы пра вернісаж яны глядзелі, як козы на новы плот: «Што за палкаводзец? У кнізе пра такога няма». Аналагічная сітуацыя была ў 1980 годзе ў час выстаўкі, прымеркаванае да 500-годдзя Міколы Гусоўскага. Мінула сем гадоў, а імя нашага слыннага паэта, якога ведаюць ва ўсім свеце, у школьным падручніку так і не з'явілася.

Спіс гэтых сумных парадоксаў атрымліваецца дужа вялікі. Ці былі ў Кастуся Каліноўскага і Валерыя Урублеўскага паплечнікі па барацьбе? Можа, гэта іхнія неназваныя прозвішчы, а не прозвішча царскага генерал-губернатара Мураўёва Вешальніка трэба было выдзеліць у падручніку курсівам? Мінскі школьнік, што жыве на вуліцы Пуліхава, марна будзе шукаць у «Гісторыі БССР» хоць кароткай звесткі пра гэтага рэвалюцыянера, які ў студзені 1906 г. падрыхтаваў і ажыццявіў замах на губернатара Курлова, па загаду якога быў расстраляны рэвалюцыйны мітынг на Прывакзальнай плошчы.

Ці не занадта старанна дбаюць аўтары падручніка пра тое, каб не абцяжарыць памяць вучняў? Ці не будзе гэтая памяць занадта лёгкай? Міжволі ўспамінаюцца словы балгарскага паэта Ніколы Вапцарава: «Мы балгары толькі таму, што памятаем імёны сваіх герояў».

**Здзіўляе нясмеласць, нейкая абачлівасць падручніка ў выпадках, калі трэба вызначыць нацыянальную прыналежнасць той ці іншай гістарычнай асобы. Часам даходзіць проста да недарэчнасцей. Здаецца, усе мы даўно ведаем, што выдатны гуманіст усходнеславянскі першадрукар Францыск Скарына — беларус. Але на стар. 48 «Гісторыі БССР» у вынятцы з пастановы калегіі прафесараў Падуанскага універсітэта аб наданні славутаму палачаніну вучонай ступені доктара медыцыны школьнік прачытае: «Выдатны рускі доктар Францыск Скарына...» Памылка сярэдневяковай падуанскай прафесуры? Не, дзіўная недасведчанасць сучасных аўтараў. Напісаная на лацінскай мове пастанова называе Скарыну «рутэнам». Лацінскі тэрмін «рутэн» азначаў у той час жыхара ўсходнеславянскіх зямель наогул і найперш — жыхара Беларусі і Украіны. Дакладны пераклад тэксту вышэйпамянёнай пастановы, зроблены вядомым вучоным-лацінiстам Я. Парэцкім, неаднаразова друкаваўся ў навуковых даследаваннях і ў папулярнай літаратуры, аднак, ігнаруючы яго, аўтары падручніка навязваюць свой, некваліфікаваны пераклад важнага дакумента, пераклад, які ўводзіць школьнікаў у зман.**

**Апавядаючы пра вызваленчую барацьбу беларускага народа ў сярэдзіне XVII ст., падручнік не кажа, што адзін з самых блізкіх паплечнікаў Багдана Хмяльніцкага Міхайла Крычэўскі быў беларусам. Герой «Народнай волі» Ігнат Грынявіцкі разам з іншымі сваімі таварышамі неакрэслена названы «ўраджэнцам Беларусі», хоць даказана, што ён быў беларусам не толькі па паходжанні, але і па перакананнях. Невыпадкова выдаўцы падпольнага часопіса «Гоман» называлі Грынявіцкага адным з заснавальнікаў беларускай франкцыі «Народнай волі». Нагадаем, што «Гоман» быў органам гэтай фракцыі і ўпершыню з рэвалюцыйна-дэмакратычных пазіцый тэарэтычна абгрунтаваў ідэю пра існаванне этнічна самастойнай беларускай нацыі.**

Беларускі народ мае слаўныя традыцыі класавай, нацыянальна-вызваленчай, рэвалюцыйнай барацьбы. Паказ гэтых традыцый, іхняй пераемнасці ў «Гісторыі БССР» відавочна звужаны. Падручнік маўчыць пра паўстанне Тадэвуша Касцюшкі. З куртатага параграфа «Рух дзекабрыстаў на Беларусі» нельга даведацца пра погляды дваранскіх рэвалюцыянераў на яе гісторыю і яе будучыню. Характарызуючы падзеі 1863 г., аўтарам падручніка трэба было б прывесці ацэнку, што далі паўстанню К. Маркс і Ф. Энгельс, якія вызначылі прынцыповае адрозненне паміж паўстаннем на Беларусі і ў Літве і паўстаннем у Польшчы, грунтоўна прааналізавалі прычыны ягонага паражэння.

Як вядома, правадыры міжнароднага рабочага класа за павешанаю царызмам шыльдаю «Паўночна-Заходні край» бачылі Беларусь, шмат разоў звярталіся да яе мінулага, разважалі пра гістарычны лёс нашага народа. Яны называлі Вялікае княства Літоўскае славянскай дзяржавай. У рабоце «Сценька Разін» Маркс пісаў, што «Русь тады была падзелена на дзве дзяржавы: «Маскву і Літву», якія з'яўляліся двума асяродкамі аб'яднання ўсходнеславянскіх зямель. У артыкуле «Дактрына нацыянальнасці ў дачыненні да Польшчы» Энгельс прызнаваў самастойнае існаванне беларускай мовы. Аналізуючы становішча нашага народа пасля падзелаў Рэчы Паспалітай, ён падкрэсліваў рэакцыйнасць і падступнасць царызму, які зусім не збіраўся вызваляць беларускіх сялян ад улады польскіх і апалячаных паноў, дадаўшы да гэтага прыгнёту яшчэ і свой. Натуральна, што геніяльныя мысліцелі з асаблівай цікавасцю сачылі за развіццём на Беларусі рэвалюцыйнага руху. Фрыдрых Энгельс неаднаразова сустракаўся з беларусам-народнікам Мікалаем Судзілоўскім, выкарыстоўваў у сваіх работах звесткі, сабраныя беларускім рэвалюцыянерам Антонам Трусавым, які прайшоў шлях ад камандзіра мінскага паўстанцкага атрада ў 1863 г. да сакратара Рускай секцыі І Інтэрнацыянала. На жаль, адсутнасць гэтых і шэрагу іншых спасылак і звестак вельмі значна збядняе падручнік. Дадамо, што слушна гаворачы пра шырокае асвятленне рэвалюцыйных выступленняў працоўных Беларусі ў бальшавіцкай «Праўдзе», аўтары павінны былі прывесці ў дакументальным матэрыяле не трохрадковае паведамленне, а больш важкія сведчанні.

Аўтары «Гісторыі БССР» не заўсёды кіруюцца патрабаваннем У. І. Леніна асвятляць падзеі і з'явы не аднабакова, а ў сукупнасці ўсіх фактаў. Вось толькі адзін прыклад. Кніга шмат разоў паведамляе пра ўцёкі і перасяленні беларусаў у межы Рускай дзяржавы, але замоўчвае добраахвотныя перасяленні рускіх сялян і гараджан на беларускія землі. Прычынай гэтай масавай з'явы было не толькі ўзмацненне феадальнага прыгнёту, але і жорсткі рэлігійны ўціск у дачыненні да старавераў і іншых недзяржаўных рэлігійных плыней. З «Гісторыі Расіі» С. Салаўёва можна даведацца, што ўрад імператрыцы Лізаветы Пятроўны ў 1754 г. патрабаваў ад сейма Рэчы Паспалітай вярнуць мільён (!) уцекачоў. Хіба гэты факт не з'яўляецца доказам прыязнасці і цеснай сувязі ўсходнеславянскіх народаў, прадстаўнікі якіх у цяжкія часіны шукалі і знаходзілі прытулак сярод братоў па крыві.

**Водгулле буржуазна-дваранскай гістарыяграфіі чуецца ў падручніку пры разглядзе ролі праваслаўнай царквы. Аўтары «Гісторыі БССР» падкрэсліваюць станоўчае значэнне праваслаўных брацтваў і створаных пры іх школ і друкарань у развіцці беларускай культуры і нічога не кажуць, напрыклад, пра кальвіністскія навучальныя ўстановы і друкарні. Не будзем забывацца на тое, што першую на сучаснай тэрыторыі Беларусі друкаваную кнігу на беларускай мове Сымон Будны выдаў у 1563 г. у нясвіжскай пратэстанцкай друкарні. На стар. 58 чытаем: «У казках, жартоўных песнях, прымаўках народ з'едліва высмейваў шляхту, каталіцкае і уніяцкае духавенства». Хочацца спытаць: няўжо беларусы не высмейвалі духавенства праваслаўнае? Каб пераканацца ў адваротным, дастаткова зазірнуць у тыя ж народныя казкі. Чаму аўтары забываюць на класавую сутнасць любой рэлігіі?**

Павярхоўна, а часам і проста некваліфікавана асвятляецца ў падручніку гісторыя культуры. Перадусім гэта датычыць параграфа 9 «Утварэнне беларускай народнасці. Беларуская культура XIV — першай паловы XVII ст.» Тут, напрыклад, анічога не гаворыцца пра такую надзвычай важную з'яву, як вучоба беларусаў ва універсітэтах Еўропы. У вучня міжволі ўзнікае ўражанне, што Францыск Скарына быў адзіны, каму пашчасціла атрымаць вышэйшую асвету і з удзячнасцю прыгадваць alma mater. Але ж паездкі па навуку мелі масавы характар, што даўно ўжо даведзена гістарычнымі даследаваннямі В. Дарашкевіча, В. Грыцкевіча і іншых вучоных. Вядома, што адначасова са Скарынай у Кракаўскім універсітэце вучыліся Георгій з Ваўкавыска, Марка з Нямігі, Павел з Гродні, Вінцусь са Слуцка, Мікола з Ашмянаў... У канцы XV ст. у гэтым універсітэце магістр Ян з Полацка чытаў шкалярам «Лісты» Цыцэрона, а магістр Ян з Мастоў — «Этыку» і «Метафізіку» Арыстоцеля. Шмат юнакоў з Беларусі ехалі па навуку ў Прагу, у Балонью і Падую. Вільнянін Мацвей быў абраны рэктарам Сіенскага універсітэта. Сотні маладых беларусаў, сярод якіх нямала было і прадстаўнікоў «люду паспалітага», далучаліся да навуковых і культурных здабыткаў іншых народаў, успрымалі, а затым неслі на радзіму і развівалі на роднай глебе ідэі Адраджэння і Рэфармацыі. Такім чынам наша культура актыўна ўключалася ў рэчышча ўсёй еўрапейскай культуры. Аўтары ж замоўчваюць гэтую найцікавейшую з'яву.

А што даведаецца вучань пра выдатнага гуманіста, асветніка, філосафа, гісторыка, філолага Сымона Буднага, які на сто гадоў раней за Спінозу распачаў навуковую крытыку Бібліі, якога царкоўнікі з нянавісцю назвалі «найвялікшым ерэтыкам Вялікага княства Літоўскага»? Даведаецца адно тое, што Будны быў «беларускі друкар».

**Аўтары падручніка надзівавольна абыходзяцца з колькаснымі паказчыкамі, якія сведчаць пра ўзровень асветы на Беларусі. На стар. 100 сцвярджаецца, што «ў другой палове XIX ст. больш за 90% насельніцтва Беларусі было непісьменнае». Няма ні спасылкі на крыніцы, ні хоць бы ўказання, да якога года ці дзесяцігоддзя трэба адносіць названую лічбу. Затым на стар. 129 мы даведваемся,**

# ХТО ВЫДАСЦЬ ДАПАМОЖНІК?

**Вельмі своечасова звярнуўся «ЛіМ» да пытання аб вывучэнні гісторыі БССР у нашых школах і асабліва ў вышэйшых навучальных установах. Да сказанага А. Сідарэвічам і В. Грыцкевічам можна было б шмат дадаць, але хачу закрануць толькі адзін з аспектаў вывучэння і практычнага выкарыстання ў нашым сучасным жыцці гістарычнай спадчыны беларускага народа. Гэта — вывучэнне гісторыі матэрыяльнай культуры, якая падаецца на старонках падручнікаў недастаткова і — што больш засмучае — вельмі часта недакладна. Так, многія яе бакі або зусім не разглядаюцца, або выкладаюцца на ўзроўні 40-х гадоў, або прыводзяцца толькі ў выглядзе спецыяльных вузкіх тэрмінаў без усялякага тлумачэння і ілюстрацый. А між тым навукоўцы нашай рэспублікі (археолагі, этнографы, літаратуразнаўцы, гісторыкі мастацтва) у апошнія дзесяцігоддзі выявілі і надрукавалі шмат каштоўных матэрыялаў, якія запоўнілі б некаторыя «белыя плямы» ў падручніках па гісторыі.**

**Колькі такіх неабходных звестак можна знайсці, напрыклад, у 5-томным выданні «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі»! Але, на жаль, гэтай інфармацыяй карыстаецца абмежаваная частка насельніцтва, у той час як навучэнцы школ і тэхнікумаў, большасць студэнтаў, нават гуманітарных факультэтаў, нічога не ведаюць пра новыя адкрыцці і новыя навуковыя публікацыі.**

**Справа ўскладняецца яшчэ і тым, што ў рэспубліцы не існуе спецыяльнага выдання накшталт польскага «Квартальніка культуры матэрыяльнай», а «Помнікі гісторыі і культуры БССР» і «Мастацтва Беларусі» ў сілу сваёй спецыфікі вырашыць станоўча гэта пытанне, вядома, не могуць.**

**Каб паспрыяць справе распаўсюджвання і вывучэння матэрыяльнай спадчыны, у мінулым годзе аўтар гэтага ліста і супрацоўнікі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР А. Лявонава, В. Фадзеева, М. Яніцкая распрацавалі план і напісалі анатацыю да будучага падручніка для ВНУ рэспублікі пад назвай «Гісторыя матэрыяльнай культуры Беларусі эпохі феадалізму (IX — XIX)».**

**І вось тут пачаліся нашы прыгоды...**

**Напачатку я звярнуўся да супрацоўнікаў адпаведнай рэдакцыі выдавецтва «Вышэйшая школа». Там мяне вельмі ветліва прынялі і прапанавалі звярнуцца ў Міністэрства вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі БССР, бо без яго дазволу нельга друкаваць падручнікі. Пайшоў туды. Мяне вельмі ўважліва выслухалі і сказалі, што, на жаль, нічым не змогуць дапамагчы, бо нельга выдаваць падручнік, калі няма адпаведных курсаў лекцый у ВНУ. Я спытаў, як жа можна чытаць адпаведны курс ці спецкурс, калі няма падручніка? Далёка не кожны выкладчык можа ўзяць на сябе такую адказнасць! Супрацоўніца міністэрства развяла рукамі і параіла звярнуц-**

НА ЖЫЦЦЁВЫХ СКРЫЖАВАННЯХ

Станіслаў ШУШКЕВІЧ

# ПЛЫВЕ РАКА ПАМЯЦІ...

У канцы 36-га года я працаваў у рэдакцыі газеты «Звязда».

Ноччу 14 лістапада трое следчых пастукаліся да мяне на кватэру, зрабілі вобыск, забралі ўсе рукапісы і кнігі з аўтографамі і арыштавалі мяне. Трымалі ў адзіночнай камеры, патрабавалі падпісаць фальшыўку. Следчы разбіў мне палец на правай руцэ, калі я адмовіўся падпісаць пратакол. З кастрычніка 1937 года спецкалегія Вярхоўнага суда Беларускай ССР прыгаварыла мяне да васьмі гадоў лагернага зняволення, яшчэ два гады я працаваў вольнанаёмным работнікам.

У кастрычніку 1946 года мне дазволілі вярнуцца на радзіму. Неўзабаве я атрымаў дарагую для мяне вестачку, выпіску з пастановы Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР ад 15 сакавіка 1947 г., што з мяне знята судзімасць. Я тады працаваў настаўнікам у адной са школ Дзяржынскага раёна, але ж у жніўні 1949 года я быў зноў арыштаваны. Праз некалькі месяцаў мне далі прачытаць прыгавор і сказалі зрабіць подпіс, што я азнаёмлены з рашэннем. Але я адмовіўся падпісаць гэты дакумент і на ўвесь ліст размашыстым почыркам накрэсліў: «МАНА». Звыш года мяне трымалі ў турмах Мінска, Магілёва, Свярдлоўска і Краснаярска... Халодным вясеннім ранкам 1950 года выпусцілі на турэмны двор сорак чалавек, далі нам па дзве пайкі ржанога хлеба, і павялі на Краснаярскі вакзал. На вуліцы было звыш трыццаці градусаў марозу. Мы былі рады, калі адчыніліся дзверы турэмнага вагона. Куды нас павязуць, мы не ведалі. Праз некалькі гадзін наш вагон адчапілі ад поезда і пакінулі *паблізу вакзала горада* Канска. За намі прыбыла аўтамашына. Мы ўсе ўселіся ў кузаве на саломе адзін каля аднаго. На нас накінулі брэзент, бо ў некаторых зняволеных была лёгкая вясенняя вопратка.

Праехаўшы каля паўтары сотні кіламетраў, спыніліся ў раённым пасёлку Тасееве ў велізарнай хаце. Насупраць нас знаходзіўся акуратна дагледжаны дом з мемарыяльнаю дошкай, на якой было напісана, што тут у час царскага самаўладдзя кватараваў Фелікс Дзяржынскі. Вакол нас збіраліся мясцовыя жыхары, шукалі знаёмых.

Падышоў да нас паэт Андрэй Александровіч. Даведаўся ад яго, што ён працуе зараз вартаўніком пры магазіне. Нам далі сігнал садзіцца ў аўтамашыну. Мне пашанцавала. Побач усеўся былы празаік і драматург, *пярмяк* Леў Праўдзін, а з другога боку—былы сакратар Чарнігаўскага абкома партыі Сямён Мірненка. На абодвух былі добрыя ўкраінскія кажухі. Я пачаў жартаваць, казаў, што паміж маіх калег у кажухах перазімую. Нас везлі ў невялічкі калгас на беразе шырокай рэчкі Тасеева.

У калгасе «Вавёрка» (вёска Усце) было 12 жылых дамоў. Вёска не мела ні школы, ні медпункта, ні крамы. У першыя дні працы на лесапавале я абмарозіў крыху твар. Добрая гаспадыня зарэзала тлустага гусака і нацадзіла шклянку тлушчу. За гэта лякарства я на працягу тыдня кожны вечар пілаваў і калоў ёй дровы.

Праз пэўны час было вырашана пабудаваць дом для леспрамгаса, і я перайшоў на цяслярскую працу. Меў ужо заробак, мог купіць кавалак ласінага мяса. Спаў на тапчане без пасцелі, пасля набыў матрац і саламяную падушку.

У канцы мая рака Тасеева вызвалілася ад лёду, сюды прыплылі катэры і прыцягнулі баржы. Была створана Тасееўская геалагічная партыя. Развесілі на сценах абвесткі, што патрэбны рабочыя, зменныя і буравыя майстры. Я быў прыняты на работу ў геалагічную партыю.

У 1984 годзе ў мяне адбылася неспадзяваная сустрэча ў Краснаярску. Да гарадской прыстані прышвартаваўся катэр «Геолаг Вахмістраў». Ён *прыплыў аж з-пад Саяна-Шушанскай* гідраэлектрастанцыі. Тут я сустрэў на беразе некалькі знаёмых супрацоўнікаў геалагічных партый і экспедыцый, сярод іх была ўдава вучонага-геолага Адольфа Вахмістрава — Марына Нікіцічна. Яна паабяцала наведаць Мінск і прывезці біяграфічныя матэрыялы пра мужа, бо ведала, што я буду працаваць над нарысам пра сваю работу ў геалагічных партыях і экспедыцыях.

Марына Нікіцічна выканала абяцанне. *Яна пазнаёміла мяне* з актамі перадачы Краснаярскаму архіву 600 папак, у якіх знаходзяцца дзённікі яе мужа, пісьмы да вучоных і пісьменнікаў, тысячы выразак з газет і часопісаў, выпісак з навуковых кніг з заўвагамі і папраўкамі, фотаздымкі. Перадала яна ў архіў яшчэ каля тысячы гістарычных, этнаграфічных кніг, а таксама работ па археалогіі земляў вялікіх сібірскіх рэк.

А я ў 1984 годзе да ад'езду з творчай камандзіроўкі па Сібіры паспеў пабываць у гарадскім пасёлку Есаулава на магіле А. Вахмістрава, напісаць у гасцініцы верш, прысвечаны яго памяці, а таксама верш памяці маёй дачушкі Наташы, якая засталася навечна спачываць каля саянскай Вясёлай гары. (Дарэчы, на старонках газеты «Літаратура і мастацтва» 19 кастрычніка 1984 года я змясціў нізку лірычных вершаў *пра гэтыя мясціны*).

Прывезла не так даўно Марына Нікіцічна мне нумар штотыднёвіка «Книжное обозрение» за 9 жніўня 1985 г. з цудоўным нарысам краснаярскага журналіста Віктара Аверыхіна «Песня пра Енісей». Аўтар расказвае пра А. Вахмістрава не толькі як вучонага-геолага, але і выдатнага бібліяфіла.

Тады мне і прыгадаліся тыя даўнія часы...

Было гэта на рацэ Тасеева, што паміж Саянскіх гор і ўзвышшаў. З яе ўзбярэжжа пачалося маё знаёмства ў 1950 годзе. Прыехаў я сюды адзін, а неўзабаве выклікаў і сваю *невялічкую сям'ю*. У вёсачцы Усце Тасееўскага раёна Краснаярскага краю знаходзілася геалагічная партыя. Яе начальнік, вучоны-геолаг Адольф Вахмістраў, прыняў мяне на працу. Ён быў сынам былой катаржанкі Марыі Вінджэ і латышскага стралка Васіля Вахмістрава, які некалі ахоўваў Крэмль. Маё знаёмства з геалагічнай працай пачалося з букварнай граматы. Калісьці, у другой палове дваццатых гадоў у Мін*скім Белпедтэхнікуме я праха*дзіў курс мінералогіі і крышталаграфіі. А каб стаць работнікам буравой геалагічнай партыі, трэба было нямала вучыцца. Мой начальнік Вахмістраў прымацаваў мяне да кваліфікаваных работнікаў, праз некалькі месяцаў я мог ужо рабіць апісанне керна. Мы часта пераязджалі ў новыя месцы, даводзілася працаваць нават пэўны час начальнікам будаўніцтва прыстані на рацэ Ангара. Не забывалася і старая прафесія. Убачыўшы белых лебедзяў над шырокімі прасторамі рачной вады, я, уражаны гэтымі відовішчамі, запісаў у свой блакнот:

Белы мой лебедзю, мой
пабрацім,
*Над Ангарою з табой*
праляцім.

Да вёскі Усце прабіраліся па дарозе з Канска аўтамашыны ў любую пару года, а па водным шляху Краснаярск—Ангара—Тасеева параходы і самаходныя баржы з вясны і да восені везлі буравыя і абсадныя трубы, штангі, бензін, нафту, дызельнае паліва...

Калі ж мы пераехалі ўверх па рацэ Тасеева, транспартныя шляхі зрабіліся вельмі цяжкімі. Праз тайгу мы прасеклі стокіламетровую дарогу да парога «Бурны» на рацэ Тасеева. А ў пачатку лютага 1952 года яе так занесла снегам, што набліжалася небяспека застацца адрэзанымі ад асноўнай базы ў Канску. Мала таго, захварэў наш радыётэлеграфіст. Трэба было біць трывогу па тэлефоннай лініі. Але да яе — сотня кіламетраў. Неабходна спешна прабірацца пехатою або конна да раённага цэнтра, сяла Тасеева. З першых маразоў рака ўкрылася таросістым лёдам. Па ім на кані не праедзеш, цяжка ісці і пехатою. Вахмістраў ведаў, што ў вёсачцы Усце заста*лася мая сям'я*. Да вёсачкі толькі сорак кіламетраў, а ад Усця да сяла Тасеева крышку больш за сто. Начальнік прапанаваў мне ісці да Усця, там наняць падводу і кіраваць работай па расчыстцы дарог ад снежных заносаў.



Адольф Васільевіч ВАХМІСТРАЎ. Чэрвень 1983 года.

Мяне радавала, хоць і непакоіла клапатлівае і нялёгкае службовае даручэнне. Але ж я ішоў і да сваёй сям'і. У маёй брэзентавай палатцы, падшытай знутры байкавым матэрыялам, было даволі цёпла ад жалезнай печкі-«буржуйкі». З самай раніцы да досвітку я збіраўся ў дарогу. Як разднела, ускінуў на плечы руксак з прадуктамі, ведаючы, што ў Усці не так соладка жывецца сям'і, побач з прадуктамі паклаў новую коўдру *з вярблюджай шэрсці* і моцна прывязаў бляшаны тубус з дакументамі. Цяжка было ступаць па таросістым лёдзе.

Першыя восем кіламетраў я прайшоў за дзве гадзіны. Набліжаюся да Рыжкавай Шывяры. Гэта раскрышаны і размыты за тысячагоддзі парог. Вада тут доўга не замярзае, але ж калі надыходзяць 35—40-градусныя маразы і яна пакрываецца таросістым, шчыльным ільдом. Ад Рыжкавай Шывяры мне застаецца прайсці да Кірсанцьева дванаццаць кіламетраў. Спадзяюся, што прайду гэты шлях да прыцемкаў. Дзень жа вельмі кароткі...

І *раптам правальваюся* ў прадушыну. Тут вельмі глыбокае месца. Мой руксак і вялікі бляшаны тубус трымаюць мяне на паверхні, я не ўмею плаваць, але адчуваю, што ў ледзяным месіве плыву наперад. Праз метраў пяць я дабраўся да трывалага лёду і выбраўся з вады на цвёрдую і трывалую паверхню. На беразе скідаю валёнкі, выліваю ваду, выкручваю анучкі і шкарпэткі. Прамок я да ніткі, але холаду не адчуваю. Трэба бегчы, але да валёнкаў ліпне снег і яны сталі цяжкімі. Іду, нібы спутаны. На ўвесь голас крыкнуў. Чую — толькі рэха адгукнулася ў гарах.

За дванаццаць гадзін я дабраўся да пасёлка Кірсанцьева. У вялізным клубе светла, каля ганку ідзе шумная і вясёлая гаворка. Хачу вузкаю сцяжынкай падняцца на бераг, але абледзянелая вопратка перашкаджае. З усяе сілы крычу, прашу дапамогі. Мяне пачулі. Падаюць зверху доўгую тонкую жэрдку, і кажуць, каб я за яе трымаўся. Ашчарэпіў яе абледзянелымі рукавіцамі і даплёўся да берага. Маладыя хлопцы падхапілі мяне пад рукі і вядуць у жылы барак. І раптам падбягае да мяне п'янюткі загадчык гаспадаркі і патрабуе паказаць дакументы. Хлопцы заступіліся за мяне, сказалі адурнеламу п'яніцу, што я супрацоўнік геалагічнай партыі «Бурны», бо некаторыя ў нас улетку *працавалі цеслярамі* і ўжо ведалі мяне.

Так я прабыў у ледзяным панцыры ажно дванаццаць гадзін. Стоячы каля вялізнай жалезнай печы, я праз паўгадзіны змог адшпіліць гузікі на сваім бекешы, распрануцца і развесіць над печчу вопратку, перадаць на захаванне днявальнаму тубус з дакументамі. У руксак не пранікла ні кропелькі вады, я выняў з яго коўдру, укрыўся. Засынаючы, адчуў, як малады хлопец ласкава накінуў на маю коўдру свой вялікі кажух.

Раніцою рушыў у дарогу. Яшчэ да вёскі Усце заставалася дваццаць кіламетраў. Я іх прайшоў за пяць гадзін.

*Дома на стале, на бялюткай* сурвэтцы, ляжаў пышны пірог, а на ім — лічбы з ягад рабіны і журавін «43». Толькі цяпер мне ўспомнілася, што заўтра дзень майго нараджэння. Мне захацелася расцалаваць сына, дачушку і жонку, я глянуў на іх і заплакаў.

Праз некалькі дзён дарога да «Бурнага» была вызвалена ад глыбокага снегу і па ёй паімчаліся бензавозы, нафтавозы, аўтамашыны з тэхнічнымі і прадуктовымі грузамі. Адольф Вахмістраў даў мне нечарговы *прэміяльны адпачынак на два* тыдні, і я зноў паплёўся ў вёску Усце, абмінаючы небяспечныя мясціны на рацэ.

Ніколі не пазбавіцца мне ад тых успамінаў, не перайсці ракі памяці.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
АТ 01015 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП. Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела культуры і выяўленчага мастацтва — 33-24-62, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела пісьмаў — 33-19-65, аддзела інфармацыі—33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.

Матэрыялы прымаюцца надрукаванымі на машынцы (праз два інтэрвалы). Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.